# ЦАРКОЎНЫ ПАСЛАНЕЦ



БЕЛАРУСКАЯ АЎТАКЕФАЛЬНАЯ ПРАВАСЛАЎНАЯ ЦАРКВА

ПАВЕДАМЛЕНЬНІ ПАРАХВІЯЛЬНАЕ РАДЫ

КАТЭДРАЛЬНАГА САБОРУ СЬВ. КІРЫЛЫ ТУРАЎСКАГА

CHURCH MESSENGER, P.O. BOX 5982, SOMERSET, N.J. 08875-5982

ГОД 19/25 ВЯЛІКДЗЕНЬ 1997 1/42/52


**ВЯЛІКОДНАЕ ВІТАНЬНЕ ЯГО МІЛАСЬЦІ ІЗЯСЛАВА БОЖАЙ ЛАСКАЙ МІТРАПАЛІТА ПЕРШАГЕРАРХА**



**БЕЛАРУСКАЕ АЎТАКЕФАЛЬНАЕ ПРАВАСЛАЎНАЕ ЦАРКВЫ**

ХРЫСТОС ВАСКРОС!

Гэтай, ад апостальскіх часоў пераказванай, усьцешнай весткай вітаю Вас зь Вялікім Сьвятам Хрыстовага Ўстаньня з Умерлых Чэсьці Годнае Духавенства й Любыя Вернікі Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, ды ўсе, дзе-б Вы ня былі, Праваслаўныя Беларусы ў духоўным і сьвецкім стане, што да гэтае роднае Сьвятое Царквы ймкняцеся, а яшчэ доступу ня маеце.

Зь любасьцяй у Хрысьце да Вас жадаю кожнаму бяз суму, ці болю ў душы малітвай сустрэць гэты Вялікі Дзень і, уважыўшы з апісаньня ў Сьвятым Пісьме ягонае значаньне, годна й ўрачыста, паводле прадзядніх звычаяў, адзначыць яго ў сямейным, ці прыяцельскім коле.

Жадаючы Вам, з Божае Ласкі, сьвяточнае радасьці й цяпла я ўсьведамляю, аднак, што далёка не для ўсіх, а асабліва не для тых, што сёньня на Бацькаўшчыне, мае пажаданьні збудуцца.

На нашай Бацькаўшчыне ня сьвітае бо радасная раніца Устаньня з Умерлых, або, іншымі словамі, адраджэньня запраўднае Веры й наказанае Ёю любасьці да Бога, ды да дадзеных Ім нашаму Народу шчодрых дароў роднае мовы й свайго гожага Краю.

Не, на нашай Зямлі стаіць поўная жахаў ноч юдавага продажу гэтых найдаражэйшых цэннасьцяў ды, перад выкананьнем над Беларускім Народам даўно прыйнятага прысуду на сьмерць, ідзе катаваньне ягоных лепшых сыноў і дачок.

І, як перад Пілатавым судом разьятраная чэрнь гукала "на крыж Яго", гэтак і сёньня здурманены натоўп рэфэрэндумамі сьмерць свайму Народу ўхваляе.

Ды на гэтае злачынства намаўляе й выпраўдвае яго сынэдрыён маскоўскіх першасьвяшчэньнікаў і сьвяшчэньнікаў, што ня Божай Справе служаць, а на інтэграцыі з адбудоўванай імпэрыяй зла сьвецкія выгады сабе зарабляюць.

Страшна й адзінотна сярод гэтага зьдзеку над праўдай і дабром Вам, Шчырыя Хрыстовыя Пасьлядоўнікі й Ахвярныя Сыны й Дачкі Беларускага Народу, як і жахна, ды самотна было Збаўцовым вучням падчас расправы над Ім і пасьля Ягонае сьмерці на крыжы.



*Вялік, сьвяты нам дзень настаў,*
*У славе з гробу зазіяў -*
*Хрыстос васкрос,*
*нам даў жыцьцё,*
**ХРЫСТОС ВАСКРОС!**

Але, як Збаўцовыя вучні ў безнадзейныя, здавалася, гадзіны й дні не пакідалі веры ў Ягоныя словы, што Ён узноў устане жывы, гэтак і Вы ня губляйце надзеі, што праўда й дабро возьмуць верх над злыднямі ў нашым любым Краі ды, упрашаючы шчырымі малітвамі гэтага Дня Ўстаньня з Умерлых, добрымі ўчынкамі на Божай ды нацыянальнай ніве прысьпяшайце ягонае прыйсьце.

Сумна ды трывожна й Вам, Роднаму Краю пачуцьцямі й дзеямі верныя Сыны, ды Дачкі вялікае Беларускае Сям'і, што на чужыну закінутыя, здалёк за нашым царкоўным і нацыянальным няшчасьцем сочыце ды духовыя мукі цёрпіце.

Не здавайцеся, Любыя, роспачы, а таксама горача ўпрашаючы Збаўцовае над усімі намі літасьці, гуртуйцеся й рабеце ўсё ў Вашых сілах магчымае, каб усім нам супольныя пабожныя й патрыятычныя ймкненьні якнайхутчэй абярнуліся ў запраўднасьць.

І тады, як Ягоным верным вучням зьявіўся ўсталы з умерлых Хрыстос, гэтак і да нас Ён прыйдзе зь перамогай праўды над маной, справядлівасьці над гвалтам і любасьці над ненавісьцяй.

Прыйдзе Ён зь перамогай свабоды нашага Краю над крамлёўскай няволяй і перамогай запраўднае Хрыстовае Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы над маскоўскай ілжэ-царквою.

І тады Беларускі народ, настаўляны ў чыстай Веры роднай Праваслаўнай Царквою ўстане да творчага жыцьця на славу Богу й на шчасьце дадзенага Ім найпрыгажэйшага ў сьвеце Роднага Краю.

Так яно станецца, бо дзеля гэтае перамогі дабра над ліхам Божы Сын зыйшоў на зямлю й перацярпеўшы сьмерць

ЗАПРАЎДЫ ВАСКРОС!

**+ Ізяслаў**
Мітрапаліт і Першагерарх
Беларускае Аўтакефальнае Праваслоаўнае Царквы

## ПАДЗЯЧНЫ ГІМН

Памёршы ўстаў і сьцеж да раю
Праўотным душам Ён праклаў,
Жыцьцё ўжо ў радасьці мінае,
Уміраць бо жах зусім прапаў.
Хрыстос Васкрос!

Ўжо пекла сілы больш ня мае
Й загаднік цемры не страшны -
Хрыстовы крыж нас ўбараняе
Ад хітрых зманаў сатаны.
Хрыстос Васкрос!

Жывы Ён ўстаў і змог дуж сьмерці
І нашы целы ўстануць зноў,
У раі быцень нам дасьць Ён вечны,
Там будзем жыць з Гаспадаром.
Хрыстос Васкрос!

Сьвяткуй-жа з намі ўся прырода,
Дзіўной усьцешся навіной:
Усім нам дароная свабода
Ад сьмерці кары канцавой.
Хрыстос Васкрос!

Абдымемся-ж браты й сяброве
У дзень гэты шчасны ды сьвяты,
Узаемна выбачма былое,
Нязгоды зьнікнуць хай сьляды.
Хрыстос Васкрос!

Вялік наш Гаспадар у славе,
Бязьмежна шчодры й міласьціў,
Ягонай чэсьць каб даць Дзяржаве
Патрэбных словаў не знайсьці.
Хрыстос Васкрос!

Адно прасьбой пакорнай штодня
Й сьвятою любасьцяй адно
Мы выяў даці зможам годна
Падзяцы Богу за дабро.
Хрыстос Васкрос!

Дык сьпеў падзячны наш імкнецца
Ад верных сэрцаў хай ўгару
І зь песьняй ангальняй зьліецца
Табе ў хвалу Гаспадару!
Хрыстос Васкрос!

## ВЯЛІКОДНЫЯ Й ВЕСНАВЫЯ АДПРАВЫ
### Ў КАТЭДРАЛЬНЫМ САБОРЫ СЬВ. КІРЫЛЫ ТУРАЎСКАГА Ў БРУКЛІНЕ

Перад Вялікаднем, на ўспамін урачыстае сустрэчы нашага Гаспадара Ісуса Хрыста пры Ягоным уваходзе ў Ярузалім, у Вербную нядзелю, 20-га красавіка г.г. (паводле новага стылю, як і ўсе даты ніжэй) падчас Сьв. Літургіі, што пачнецца а 9.00-й г. раніцы, будзе асьвячэньне вербаў.

Далей, у цярпенным тыдні, парадак адправаў вызначаны наступна:

Вялікі Чацьвер, 24-га красавіка - Успамін Хрыстовых Мукаў (12 Явангяльляў)- - пачатак а 6.00-й г. увечар.

Вялікая Пятніца, 25-га красавіка - Вячорня й вынас плашчаніцы на Успамін Хрыстовых Паховінаў - пачатак а 6.00-й г. увечар.

Вялікая Сыбота, 26-га красавіка - Паўночніца - пачатак а г. 11.30 увечар.

ВЯЛІКДЗЕНЬ, нядзеля, 27-га красавіка - Крыжны Йсьцеж (Ход) і Зараньня, ды ўсьлед Сьв. Літургія пачатак а 12.00 г. уначы. Пасьля адправаў асьвячэньне пасхаў. Удзень адправаў ня будзе.

Пасьля Вялікадня сьвяты й адправы йдуць, як паказана ніжэй:

Сьв. Літургія кожнае нядзелі, аж да перадапошняе ў кастрычніку, будзе пачынацца а 9.00-й г. раніцы.

Тамашовая нядзеля, 4-га травеня - пасьля Сьв. Літургіі паніхіда за супакой памерлых.

Радаўніца, аўторак, 6-га травеня - маленьне за спачылых на могільніку ў Іст Бранзвіку, Н. Дж. - пачатак а г. 10.30 раніцы. У гэты-ж дзень Юр'е.

Нядзеля Міраносьбітак і Сьв. Кірылы Тураўскага, 11-га травеня - Парахвіяльнае Сьвята. Успамін ахвяраў імпэрыялізму на Беларускай Зямлі з нагоды 52-х угодкаў заканчэньня 2-е сусьветнае вайны 9-га травеня 1945-га г.

Дзівотнае зьяўленьне Йконы Божае Маці ў Жыраве, аўторак, 20-га травеня.

Ушэсьце, чацьвер, 5-га чырвеня. У гэты-ж дзень Сьв. Еўфрасіньні Полацкае.

СЕМУХА, нядзеля, 15-га чырвеня. Адразу пасьля Сьв. Літургіі адумысловая вячорня.

У панядзелак, 23-га чырвеня, пачатак посту, што трывае да дня памяці Сьв. Апосталаў Пётры й Паўла, ў сыботу, 12-га ліпеня.

2-я нядзеля пасьля Сёмухі, 29-га чырвеня - Чэсьць Памяці СЬВЯТЫХ БЕЛАРУСКАЕ ЗЯМЛІ ДЫ ЎСПАМІН БУДАЎНІКОЎ АЎТАКЕФАЛІІ БЕЛАРУСКАЕ ПРАВАСЛАЎНАЕ ЦАРКВЫ.

Нараджэньне Упрэдніка й Гаспадаровага Хрысьціцеля Яна, панядзелак, 7-га ліпеня.

Сьв. Апосталаў Пётры й Паўла, сыбота, 12-га ліпеня.

Парадак Божых Службаў у далейшыя сьвяты ўлетку ды ўвосень будзе пададзены ў наступным нумары "Ц.П.".

Загадзя, аднак, трэба ведаць, што ўлетку ў нядзелі, ад першае пасьля Вялікадня й да перадапошняе ў катрычніку, Сьв. Літургія пачынаецца а 9.00-й г. раніцы, а ўвосень і зімою а 10.00-й.

Сьвяты, што прыпадаюць у тыдні, калі не абвешчана загадзя йнакш, адзначаюцца ў найбліжэйшыя нядзелі.

Кожнае нядзелі, праз цэлы год, пачынаючы поўгадзіны перад пачаткам Сьв. Літургіі, можна спавядацца.

У гэтым самым часе, або яшчэ лепш на колькі дзён раней, можна таксама замаўляць паніхіды й малебны, ды падаваць сьпіскі йменаў на ўспамінаньне.

Адрыс Катэдральннага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага: 401 Atlantic Avenue, Brooklyn, N.Y. 11217-1702 (corner Bond Street).

Даезд падземкай: A, C & G lines to Hoyt-Schermerhorn Street station, lines 2, 3, 4 & 5 to Nevins Street station.

Даезд з Лонг Айлэнду чыгункай LIRR to Flatbush Avenue Station.

Самаходам: па Brooklyn-Queens Exp'way to Atlantic Avenue Exit.

Дадатковыя інфармацыі можна атрымаць па тэлефонах: (718) 998-0069 ды (908) 873-8026, або па E-Mail: belautoc@ix.netcom.com.

НАВЕДВАЙЦЕ
СВАЮ РОДНУЮ СЬВЯТЫНЮ!

---

**ЧЫТАЙЦЕ Й РАСПАЎСЮДЖВАЙЦЕ**
**"ЦАРКОЎНАГА ПАСЛАНЦА"**
**АДЗІНЫ ЧАСАПІС ПРЫСЬВЕЧАНЫ ІДЭІ**
**НАЦЫЯНАЛЬНАЕ ПРАВАСЛАЎНАЕ ЦАРКВЫ**

# МІТРАПАЛІТ ПЁТРА МАГІЛА

(1596-1647)

З НАГОДЫ НЯДАЎНЯЕ КАНАНІЗАЦЫІ

Пашыраны Архірэйскі Сабор Кіяўскага Патрыярхату Украінскае Праваслаўнае Царквы, што пад старшынствам Сьвяцейнага Патрыярха Філарэта адбыўся 12-га сьнежня мінулага году ў Сьв. Уладзімірскай Катэдры ў Кіяве, ухваліў кананізацыю выдатнага герарха й дзеяча Праваслаўнае Царквы ў Рэчыпаспалітай XVII-га стагодзьдзя Мітрапаліта Пётры Магілы.

Гэтая нязвычайная падзея мае, аднак, нятолькі краёвае ўкраінскае значаньне, але й важная для беларусаў, бо Пётра Магіла быў мітрапалітам аднае тады для Літвы й Украіны, незалежнае яшчэ ад Масквы, Праваслаўнае Царквы й ягоная кананізацыя забавязвае й Беларускую Аўтакефальную Праваслаўную Царкву.

Заслугу на славу й пашану беларускага сьвятога дае яму, ўсё-ж, не адно ягонае прабываньне на Кіяўскім мітрапалітальным пасадзе, а перад усім плодная дзейнасьць на ўратаваньне й умацаваньне Праваслаўнае Царквы ў найцяжэйшую пару Ейнага йснаваньня ў межах Рэчыпаспалітай.

Наканаваньнем кірунку Магілавае дзейнасьці, было, мабыць, ягонае нараджэньне ў 1596-м годзе, якраз тады, як пачалася Берасьцейская вунія.

Сам ён быў малдаванін і даводзіўся пасынкам малдаўскаму гаспадару, зь вернасьці роду якога Праваслаўнай Веры й атрымаў асноўную асьвету ў Львоўскай брацкай школе.

Арыстакратычнае ўпрывілеяваньне дало яму магчымасьць, узвыш здабытае ў брацкай школе адукацыі, дапоўніць веды яшчэ й студыямі на заходня-эўрапэйскіх унівэрсытэтах.

Вярнуўшыся з замежных падарожжаў ён ўступае ў вайсковую службу Рэчыпаспалітай й бярэ ўдзел у бітвах пад Цэцорай (1620) і Хоцінам (1621) падчас вайны супраць Турэччыны.

Узгадаваны ў гарачай Праваслаўнай Веры ды непахісна Ёй адданы ён не знайшоў, аднак, здаваленьня ў магчымай яму бліскучай сьвецкай кар'еры ды таварыскім жыцьці, а ў трыццацігадовым веку наважыў прысьвяціць сябе цалком на службу Богу й Царкве, а гэтым і беларускаму ды ўкраінскаму народам.

Заахвочаны тагачасным мітрапалітам Іявам Барэцкім Пётра Магіла ўступае ў Кіява-Пячорскі манастыр і гэтак выдатна выяўляе свае здольнасьці, што ўжо за два гады, адразу пасьля сьмерці архімандрыта Захара Капысьценскага ў 1627-м годзе, становіцца ягоным наступнікам.

Магілавыя здольнасьці былі якраз тым найлепшым падмацаваньнем, якога патрабавала зусім пазбаўленая ў той час правоў на карысьць вуніятаў Праваслаўная царква ў Рэчыпаспалітай.

Прабываньне-ж на кіраўнічым манастырскім становішчы ў Кіява-Пячорскай Лаўры, што тады была бадай-што найважнейшым асяродкам рэлігійна-культурнага жыцьця праваслаўных частак беларускага й украінскага народаў, дало яму магчымасьць найспарней прычыніцца гэтымі здольнасьцямі да дабра Царквы, на службу Якой ахвяраваў сваё жыцьцё.

Адной з найважнейшых дзялянак службы Царкве ён лічыў выдавецкую дзейнасьць і за пяць з паловай гадоў ягонага манастырскага кіраўніцтва з друкарні Кіява-Пячорскай Лаўры выйшла ў сьвет 15-ць кнігаў, у ліку якіх былі й творы напісаныя, або перакладзеныя самым Пётрам Магілам.

Яшчэ большую вагу, аднак, аддаваў ён справе адукацыі праваслаўнага духавенства й насельніцтва.

З гэтай мэтай у 1631-м годзе Пётра Магіла адчыняе ў Кіява-Пячорскай Лаўры названую гімназыяй школу з багатай праграмай нятолькі багаведнага, але й агульнаэнаўчага навучаньня.

У гэтай дзейнасьці, нажаль, сустрэў ён нямала супраціву й прыкрасьцяў, бо брацтвы бачылі ў новай школе спаборніцу зь іхнымі ды праваслаўныя наагул з падозраньнем ставіліся да навучаньня ў ёй лацінскае й польскае мовы.

Пасьля працяглага канфлікту й нездаволеньня Пётра Магіла развязаў справу дыпляматычным спосабам: ён сам, як запісана ў рэестры Кіяўскага Багаяўленскага Брацтва, стаў "старшэйшым братам, апякуном і фундатарам таго брацтва" й праз гэта атрымаў магчымасьць у 1632-м годзе зьліць заснаваную ім школу з брацкай, што неўзабаве была ператвораная ў калегію, а з часам і ў духоўную акадэмію.

Пётра Магіла рупеўся нятолькі праз высокі ўзровень навучаньня ў улюбаванай ім школе, але й дбаў празь ейнае матэрыяльнае забясьпечаньне, не шкадуючы на гэта ягонае радавое спадчыны.

У выніку ўсіх ягоных стараньняў школа ўзьнялася на вышэйшы ўзровень за вуніяцкія й каталіцкія ды дала "праваслаўнаму народу й Царкве шмат годных і навучоных мужоў".

Побач зь Кіяўскай Пётра Магіла крыху пазьней адчыніў яшчэ калегіі ў Крамянцы й Віньніцы.

Становішча Праваслаўнае Царквы ў Рэчыпаспалітай у першай палове XVII-га стагодзьдзя было, аднак, нагэтулькі цяжкім, што прымусіла Пятра Магілу ўзыйсьці на шлях абарончае дзейнасьці за права Ейнага йснаваньня.

Праз сорак бо год займаньня зацятым ворагам Праваслаўя Жыгімонтам IV-м (Вазам) польскага каралеўскага й літоўскага вялікакняжацкага пасаду не дапушчалася ўзнаўленьне царкоўнае герархіі, сьвятарам забаранялася адпраўляць Божыя Службы, царкоўныя будынкі зачыняліся, або руйнаваліся, а праваслаўных урадаўцаў здымалі йз становішчаў.

Пратэсты ды нават бунты супраць гэтае несправядлівасьці ды гвалту не давалі палёгкі, а выклікалі яшчэ горшыя рэпрэсіі.

Урэшце ў 1632-м годзе Жыгімонт Ваза памёр й на каралеўскі пасад узыйшоў больш памяркоўны ягоны сын Уладыслаў.

Праваслаўныя скарысталі зьмену на пасадзе, каб дамагчыся сабе правоў перад соймам, на які выслалі дэлегацыю зь Пётрам Магілам у ейным складзе.

Не зважаючы на моцны каталіцкі й вуніяцкі супраціў новы кароль, усё-ж, выдаў "Пункты задаволеньня", якімі часткава заспакоіў патрабаваньні праваслаўнага насельніцтва Рэчыпаспалітай.

Паводле гэтых "пунктаў" і іншых пастановаў праваслаўным дазвалялася ўзнавіць на мейсца нявызнанае Жыгімонтам царкоўную герархію й займець дзьве мітраполіі: адну ў Магілёве, а другую ў Кіяве, засноўваліся чатыры япархіі, варочалася шмат забраных вуніятамі цэркваў і манастыроў, у тым ліку й Сафійскі катэдральны сабор у Кіяве, ды дазвалялася бесьперашкодна адпраўляць Божыя Службы й абрады.

Варочаючыся з сойму ў 1632-м годзе сябры соймавае дэлегацыі й праваслаўныя братчыкі, карыстаючы з новага прывілею, зыйшліся ў Львове й абралі Пётра Магілу на мітрапаліта.

Да заснаваньня Магілёўскае мітраполіі ў Вялікім Княстве Літоўскім, нажаль, не дайшло.

На мітрапалічым пасадзе Пётра Магіла зайняўся ўзнаўленьнем і ўпарадкаваньнем жыцьця Праваслаўнае Царквы ў Вялікім Княстве Літоўскім ды на Украіне,

уважна сочачы за дзейнасьцяй япархіяў і стаўляючы на адказныя становішчы годных людзей, дбаючы праз дастатковую багаведную падрыхтоўку пастыраў ды вымагаючы ад іх быць прыкладам для вернікаў.

Да гэтае падрыхтоўкі патрэбныя былі службовыя й павучальныя кнігі, і Пётра Магіла прысьвяціў гэтай справе вялікую ўвагу.

Да выдадзеных за час ягонага архімандрыцтва ў Кіява-Пячорскай манастырскай друкарні кнігаў, да кожнае зь якіх ён сам напісаў прадмову, дайшлі цяпер "Кароткі Катэхізіс" і вялічэзны "Еўхалагіён", або трэбнік.

Найвышэйшым, аднак, Магілавым асягненьнем стала складзенае пад ягоным кіраўніцтвам "Праваслаўнае Вызнаньне Веры", што ў 1642-м годзе на саборы прадстаўнікоў беларуска-украінскае, грэцкае й малдаўскае Праваслаўных Цэркваў у Ясах было ўхваленае, а недоўга пазьней зацьверджанае ўсходнімі патрыярхамі, ды дасюль застаецца адным з найвыдатнейшых твораў праваслаўнае дагматычнае багаведы.

Як і кожная, шырокага абсягу ды глыбокага перайначаньня дзейнасьць, Магілавая таксама не абыйшлася без памылак ды не засталася бяз закідаў.

Некаторыя з гэтых закідаў, як, прыкладам, зьвінавачаньні ў сымпатыі да каталіцтва, ці вуніі, зусім дарэмныя, бо, каб гэтыя сымпатыі былі, перайсьці ў упрывілеяваную веру было лёгка й карысна.

Таксама й спадзявацца ад яго беларускага, ці ўкраінскага патрыятызму ў сёньняшнім сэнсе гэтага слова было зарана.

Затое ягоныя цэнтралізатарскія рэформы й абмежаньне ўплыву брацтваў, а сьледам і іхнае дзейнасьці, адарвалі Праваслаўную Царкву ад народнага жыцьця, ды прымусілі Яе шукаць падтрыманьня сьпярша ад уладаў Рэчыпаспалітае, а пазьней Расейскае імпэрыі.

Але, каб не Магілавая дзейнасьць, ці застаўся-б хоць сьлед Праваслаўнае Царквы ў Рэчыпаспалітай ды й цяпер, на сёньняшніх землях Беларусі й Украіны?!

Памяць сьвятога Мітрапаліта Пётры ўшаноўваецца ў дзень ягонае сьмерці 1-га студзеня новага стылю.

Б. Сурынец

## ПРАДМОВА

### ДА КАРОТКАГА КАТЭХІЗІСУ 1645-га ГОДУ

*Ад Рэдакцыі: каб паказаць, што ў выданьнях друкарні Кіява-Пячорскага манастыра ўжывалася тагачасная ўрадавая беларуская мова, якую ведаем зь Літоўскага Статуту й безьлічы іншых пісьмовых памяткаў, ніжэй перадрукоўваем тэкст з загалоўнага ліста й прадмову да "Кароткага Катэхізісу, надрукаванага ў 1645-м годзе.*

СОБРАНІЕ КОРОТКОИ НАУКИ.

О Артикулах Веры Православнокафолическои Хрістіянскои. ведлуг вызнаня и Науки Церкве Святое Восточнои соборнои Апостолскои, для цвеченя и науки, всем в Школах ся цвечачим Хрістіянским Православным детем. За росказанем й благословенством Старших. Первей языком Полским, а тепер Діалектом Руским з Друку выданое. В Святои Великои Чудотворней,: Лавре Печаро-Кіевской. Року: 1645.

"За благословеніем и росказанем старших, часу недавно прошлого, през Друк короткое Собране науки о Вере Православнокафолическои Хрістіянскои, Свету Книжка побликованая ест Діалектом Полским. Для певных и поважных причин, Чителнику ласкавый, а немней для того абы уста невстыдливых помовцов затамованы были. Которые будучи непріятелми головными Церкви Всходней, Діалектом Полским, смели и важилися розными герезіями Церков Православнокафолическую мажучи, свету огижати. Абы такимже Діалектом, (гды правдивое вызнане Церкве читати будут,) зражены и поганбены, вечне зоставали.

Тепер зась повторе тая самая Книжечка о Вере Православнокафолической, на некоторых местцех троха обширне исправлена, Діалектом Руским през Друк свету публикуется: для самых Сынов церкви Православнокафолическои всходней, Втот цель и конец, Абы нетылко самые Іерее, в Парафеях своих, повероным Собе от Христа Спасителя Кровію его святою откупленым овечком науку, певным и утoрованым способом подавали на кожный день, а найбарзей еднак в Неделю, и в дни святые; Леч абы теж, и свецкіе Православные умеючіи читати, неумеючим и простейшим с повинности Хрістіанскои, еднаковым способом науку преподаючи заправовали. А найбарзей Родиче, детей своих. Панове, челядь. Преложоные, собе подлеглых. особлившим еднак способом, абы по Школах все Дидаскадалове яко найпилней своих учнев заправовали, приказуючи и того напамять учитися, што в той Книжце ест написано и выражено.

Ежелибы хто зась не перестаючи на том коротком Собранію, науки о Вере Православнокафолическои, потребовал болшеи ведомости з писма святого. з святых соборов и з богоносных Отцев: Таковый нехай терпливе на малый час вытрывает; гдыж за помочю и спопешенством святаго и животворящаго Духа, О том яко найгрунтовнейшую й найлатвейшую обширней през Друк науку, прудко подати постараемся.

А тым часом Чителнику ласкавый, тую маленкую Книжечку, яко найчастей й найпилней, з уваженем читай: И в памяти своей пилно заховуючи, будь здоров й ласкав."

## ВОЧЫ

(НА РАДАЎНІЦУ)

Колькі вачэй гожых і мілых
Красой дзівавалася дзённай -
Згасьлі яны ў цемры магілаў,
А сонца ўзыходзіць і сёньня.

Небам начным, зорамі ўтканым,
Вачэй захаплялася колькі -
Вочы зайшлі засьцяю цьмянай,
А ў небе йшчэ сьвецяцца зоркі.

Ці-ж назусім позірк пагас іх?
Даць веры я ў гэта ня хочу -
Недзе на сьвет згэтуль нябачны
Ўглядаюцца любыя вочы.

Ходзяць што ўзвыш зоры ня гінуць
За небавы бераг зайшоўшы
Й вочы, што скон гэтта зачыніць,
Нам толькі здаюцца памёршы.

Позірк вачэй гожых і мілых
Дзесь сочыць за зоркай найяснай,
Бо й за мяжой цёмных магілаў
Там вочы памёрлых ня гаснуць.

Паводле Sully Prudhome. Les yeux.
пераклад Б.Д.

# МАЛІТВА НА 25-га САКАВІКА

ПРАЧЫТАНАЯ Я.М. МІТРАПАЛІТАМ ІЗЯСЛАВАМ НА СЬВЯТКАВАНЬНІ 79-х УГОДКАЎ АБВЕШЧАНЬНЯ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ Б.Н.Р. 16-га САКАВІКА 1997 г. У БРУКЛІНЕ.

Бяз краю Магутны й бязьмежна Міласьцівы Божа, што з Тваее найвышэйшае Мудрасьці й Дабрыні стварыў Беларускі Народ і, абдарыўшы гэты народ мілагучнаю моваю ды ўшчадрыўшы гожым і багатым Краям, нас зь яго на сьвет пусьціў, не пакінь-жа нас без накіраваньня на дагодныя Табе шляхі ды без Тваее Ласкі й Апекі.

Не дазволь ліхім сілам адвярнуць нас ад любасьці да Цябе й да блізкіх, ды ад удзячнасьці за ўсё дабро, што Ты нам даў.

Навучы нас пашыраць любасьць і згоду паміж людзьмі, каб спыніліся й загаіліся крыўды, дай розум памнажаць на славу й пахвалу Табе ды на карысьць усім духовыя й матэрыяльныя багацьці, якімі Ты нас абдарыў.

А найбольш паспрыяй і памажы нам, Шчодры Створча, не адрачыся любасьці да Беларускага Народу, сьпеўнай мовай якога мы навучыліся пазнаваць Цябе, ды не забыцца шанаваць красу Роднага Краю, што, гледзячы на яе, мы ўсьцяж дзівуемся з Тваее Велічы.

Дай нам мудрасьць, навагу й вытрываласьць здабыць нашаму Беларускаму Народу дзяржаўную незалежнасьць, якую Ты роўна ўсім народам наканаваў, ды асягнуўшы гэтую мэту зрабіць яе зарукай справядлівасьці, роўнасьці перад правам і аднолькавае магчымасьці на шчасьце для кожнага грамадзяніна.

Настаў нас, як памагчы нашым братом, што забыліся на любасьць да Цябе й адракліся ўсяго роднага, вярнуцца да Цябе й адчуць умілаваньне да Народу й Краю, зь якіх нарадзіліся, ды стаць разам з намі да працы на лепшую долю.

Зьмяні ў прыяньне ненавісьць нашых ворагаў, а над тымі, што ня схочуць скарыцца Тваёй Волі, дай нашай справядлівай Справе перамогу, ды ўстанаві мір і дабрабыт на нашай Зямлі й на ўсім сьвеце.

Ды завяршы, Божа, Тваю бязьмежную Міласьцівасьць Ласкай нам узнавіць на нашай Бацькаўшчыне родную Беларускую Аўтакефальную Праваслаўную Царкву, у Якой Беларускі Народ будзе пазнаваць Тваее Наказы, дзякаваць за Тваее дабрадзействы ды ўздымаць з пакаленьня ў пакаленьне хвалу Айцу й Сыну ды Сьвятому Духу.

Амінь.

# СЬВЯТКАВАНЬНЕ 25-га САКАВІКА Ў НЬЮ ЁРКУ

Пачаўшы амаль 50 год назад, як толькі ў Нью Ёрку стварылася арганізаваная грамада сьведамае нацыянальна пасьляваеннае беларускае эміграцыі, сьвяткаваньне ўгодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі на доўгі час сталася галоўнай гадавой падзеяй беларускага жыцьця ў Амэрыцы ды, можна сказаць, і ўва ўсім сьвеце.

Трэба з гонарам прызнаць, што сьвяткаваньні ўгодкаў 25-га Сакавіка неўзабаве пасьля іхнага пачатку здабылі вялікае рэпрэзэнтацыйнае значаньне для беларускае вызвольнае справы, а высокі ўзровень мастацкіх выступаў на іх шчодра жывіў памяць роднае культуры на чужыне й на Бацькаўшчыне.

Ня дзіва таму, што на гэтыя сьвяткаваньні людна зьбіраліся нятолькі беларусы зь Нью Ерку й ваколіцаў, але й наведваліся, ды адгукаліся на іх у немалым ліку амэрыканскія палітыкі, як мяйсцовыя, гэтак і дзяржаўныя ў Вашынгтоне.

Нажаль, ужо ці не два дзясяткі год, як гэтыя, неабходныя ў сталіцы сьвету, якою ёсьць Нью Ерк, урачыстасьці спыніліся, а сьвяткаваньні адбываюцца на правінцыі.

Сёлета, аднак, калі Масква зманам і гвалтам пастаўленых ёю ў нас марыянэтак імкнецца даканаць ейны даўні сьмяротны прысуд беларускай дзяржаўнасьці й самому Беларускаму Народу, узноў дапусьціць, каб з нагоды 25-га Сакавіка заклік да змаганьня за незалежнасьць годна й моцна не прагучэў у Нью Ёрку ды не пайшоў адгэтуль на Бацькаўшчыну, было-б нацыянальнай шкодай ды віною перад нашым паняволеным Народам.

Разумеючы гэта ды зь нястачы іншых, каб справіць сьвяткаваньне, Рэдакцыйная Калегія “Царкоўнага Пасланца” й узяла на сябе заданьне зайняцца зладжаньнем урачыстасьці, вызначыўшы яе, каб ня зьменшыць удзелу ў гэткіх-жа зборах у недалёкіх асяродках, на нядзелю, 16-га сакавіка 1997-га году.

Была зробленая дамова зь кіраўніцтвам БАПЦ у справе адправаў, запрошаны прамоўцам лідар Беларускага Народнага Фронту сп. Зянон Пазьняк, атрыманая згода на выступ ад нашых выдатных артыстаў, на супрацьлукашэнкаўскай дэманстрацыі 27-га лютага удзельнікам раздадзеныя, а пазьней шырака разасланыя запросіны ды ў расейскай, зь нястачы свае, найбольш найновай эміграцыяй чытанай газэце зьмешчаная абвестка.

Усе гэтыя захады далі добры вынік, бо ўжо загадзя перад пачаткам Сьв. Літургіі, якую ў Катэдральным Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага адправіў Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў, пачалі зыходзіцца маленькікі, якіх неўзабаве назьбіралася ладная грамада.

Пасьля Сьв. Літургіі й перад пачаткам прынагоднага малебну за ўсвабаджэньне зьняволеных Уладыка сказаў прысьвечанае дню слова.

У ім ён, навязваючы да больш як тысячу год назад на ўспамін адоленьня крывавае гарэзыі іканаборства ўстаноўленага сьвята Перамогі Праваслаўя, якое адзначалася Царквою ў гэты дзень, сказаў, што сёньня нашая Бацькаўшчына Беларусь церпіць ад новага ўвасабленьня іканаборства, якое нятолькі намовамі акупанцкае Расейскае Праваслаўнае Царквы спакушае праваслаўных вернікаў грэбаваць найдаражэйшымі Божымі дарамі роднае мовы й свайго Краю, ды

# ПРЫВІТАНЬНЕ З БАЦЬКАЎШЧЫНЫ




*Яго Міласьці Мітрапаліту Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы Ізяславу.*

*Віншуем Яго Міласьць, а ў яго асобе ўсіх вернікаў БАПЦ з найвялікшым сьвятам-угодкамі Беларускае Народнае Рэспублікі. Зычым здароўя, бадзёрасьці, плёну ў справе змаганьня за Незалежнасьць Беларусі!*

*Ігар, Таццяна Пушкіны, Юрась Праракоў. Магілёў, 1997.*

адракацца ад іх, але й праз нягодную супалку гэнае йлжэ-царквы з пастаўленай звонку марыянэтнай уладай гэтыя сьвятыя дары зьнішчае.

Аднак, як і ў змаганьні супраць першага іканаборства Богу было дагодна даць перамогу праўдным вернікам, гэтак і ў нашай барацьбе супраць ягонага новага ўвасабленьня Ен нашай справядлівай справе ўзяць верх не адмовіць, калі ягонага прыяньня цяпер і заўсёды будзем упрашаць і на яго заслугоўваць.

Пасьля закончанага гімнам "Магутны Божа" малебну маленьнікі зыйшлі ў царкоўную залю, дзе Парахвіяльнае Сястрыцтва прыгатавала ўжо багаты буфэт.

Падчас пачастунку паміж прысутнымі йшлі жывыя гутаркі на ўсім цікаўныя тэмы й завязваліся знаёмствы з і паміж нядаўна прыбылымі з Бацькаўшчыны суродзічамі.

Урэшце, усё-ж, давялося бяседу спыніць, і сябра Рэдакцыйнае Калегіі "Царкоўнага Пасланца" сп. Юры Васілеўскі, прывітаўшы гасьцей, папрасіў Мітрапаліта Ізяслава адчыніць сьвяткаваньне малітвай.

Урачыстую й прачуленую малітву, якую прачытаў Уладыка, мы друкуем асобна ад апісаньня ўрачыстасьці.

Сьледам за малітвай сп. Васілеўскі прачытаў атрыманыя ад а. прат. Максіма Таўпекі й Беларускага Кангрэсавага Камітэту Амэрыкі прывітаньні, ды паведаміў, што зь неадкладных палітычных прычынаў сп. Зянон Пазьняк выехаў у Эўропу й на ягонае мейсца прынагоднае слова скажа сп. Барыс Данілюк.

У кароткім слове сп. Данілюк не паўтараў хронікі падзеяў, што завяршыліся абвешчаньнем незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі 25-га Сакавіка 1918-га году, а зьвярнуў увагу на патрэбу адкруціць, як ён назваў "заломы", што нам і мы самыя парабілі на шляху нашага вызвольнага руху й, зь якіх выводзяцца няўдачы нашага дзяржаўнага будаўніцтва, як восем дзясяткаў год назад, гэтак і зусім нядаўна.

Гэтымі "заломамі", на ягоную думку, было адрачэньне ад пераемнасьці дзяржаўнае спадчыны, улучна з назовам, Вялікага Княства Літоўскага й тварэньне новае нацыі бязь відавочных кожнаму гістарычных карэньняў, ды нат свайго асаблівага ймя.

Гэтае адрачэньне ўціснула нашую нацыянальную сьведамасьць у абыймя ідэі беднае мужыцкае нацыі, у якой ня было мейсца панам і шляхце.

Паны й шляхта, на бяду, былі ў патрэбную гадзіну якраз найлепш здольнай да дзяржаўнага будаўніцтва клясай, што адкінутая намі падалася ў непрыязную суседзкую службу.

Гэты падзел не застаўся, аднак, толькі клясавым, але, праз ягонае супадзеньне з канфэсыйным, абярнуўся ў нацыянальны, зь якога частка народу, нясьцертыя сьляды даўняе ліцьвінскае сьведамасьці якое, маглі высьпець у патрыятызм адроджанага Літоўскага Гаспадарства, замест таго стаў закваскай чужынскае вышэйшасьці й помстнае варожасьці.

Пахаваньне дзяржаўнае спадчыны й тварэньне на ейным мейсцы новае нацыі дало нашым ворагам магчымасьць паставіць пад пытаньне й ейную эканамічную жыцьцяздатнасьць, ды калечыць ім народную псыхіку й суймаць паймкненьні да вызваленьня.

З забыцьця дзяржаўнае традыцыі пайшла й няпамяць на пачатыя яшчэ Альгердам і Вітаўтам намаганьні стварыць краёвую аўтакефальную Праваслаўную Царкву ды незразуменьне да гэтае пары Ейнае неабходнасьці ў дзяржаўным будаўніцтве, і нацыянальным жыцьці.

Прамоўца сказаў, што, нажаль, ніводнае палітычнае згрупаваньне ў нас сёньня не бярэ вылічаных ім "заломаў" на ўвагу й выказаў надзею, што гэткая неабходная сіла ў нас зьявіцца.

На гэтым афіцыйная частка ўрачыстасьці скончылася й настала пара доўгачаканае й рэдкае ў эміграцыйным жыцьці насалоды - канцэрту роднага слова й песьні.

Пачала яго нашая выдатная сьпявачка сп-ня Валянтына Пархоменка песьняй "О. Беларусь, мая шыпшына", музыка М. Куліковіча на словы Ул. Дубоўкі, якой, ня першы ўжо раз, узрушыла да сьлёз прысутных.

Усьлед, адна за адной, у выкананьні сп-ні Пархоменка, сп. Алеся Казака, паасобна й з дачкой Волькай, пайшлі пабожныя й патрыятычныя песьні беларускіх кампазытараў і квелячыя сэрца беларускія народныя песьні, у пяяньні якіх гэтай артыстычнай сям'і няма раўні.

Дадатковай прыемнасьцяй канцэрту, апрача майстэрскага акампанімэнту на кібордзе Вольгі Казак, быў ейны выступ з собскімі кампазыцыямі - беларускай "Калыханкай зямлі" й англамоўнай "Someday you'll return".

Слухаючы іх, можна было пераканацца, што Волька Казак, якая студыюе кампазыцыю у Ньюпфальцкім каледжы ньюёркскага штатнага ўнівэрсытэту, вырастае ў арыгінальную музычную творчыню, сьветчаньнем чаго нятолькі ўпадабаньне слухачоў канцэрту, але й узнагароды, якія яна здабывае на конкурсах маладых кампазытараў.

Апрача сьпевакоў, майстэрскай дэклямацыяй вершаў М. Кавыля й Сіроткі, ужо ня першы раз, узноў захапіла прысутных сп-ня Рыма Маленчанка - мастачка слова, якой не знайсьці раўні.

Нажаль час ставіць межы ўсім людзкім справам і канцэрт, а зь ім і сьвяткаваньне скончыліся, як ужо ўвайшло ў традыцыю, усімі прапяянай песьняй "Пачуй, о, Ласкавая Маці", змоўленай Я.М. Мітрапалітам Ізяславам падзякай Богу й нацыянальным гімнам.

Узмацаваныя малітвамі й упэўненыя ў нацыянальнай навазе, а разам з гэтым насычаныя родным словам і песьняй разыходзіліся ўдзельнікі ўрачыстасьці да штодзённых справаў, радуючыся, што веліч нацыянальнага сьвята ўшанавалі прысутнасьцяй прадстаўнікі розных царкоўных і грамадзкіх кірункаў, як сп. К. Мерляк і некалькі яшчэ парахвіянаў зь квінсаўскае беларускае парахвіі канстантынопальскае юрысдыкцыі, ды сп. Ф. Бартуль, заступнік старшыні галоўнае ўправы БАЗА.

Шкада, што яшчэ не апамяталіся й не пайшлі за іхным прыкладам тыя, што ўважаюць сябе за адзіна правільных носьбітаў ідэі беларускае дзяржаўнае незалежнасьці, а ўсіх іншых за ворагаў.

Сьвяткаваньне 79-х угодкаў 25-га Сакавіка ў Катэдральным саборы Сьв. Кірылы Тураўскага было нятолькі знакам узнаўленьня мяйсцовае актыўнасьці ньюёркскае беларускае грамады, але й ейнага жаданьня быць у адраджэнскім руху не на апошнім мейсцы, довадам на што сталася з энтузыязмам прыйнятая пастанова пачаць збор грошай на выданьне касэты беларускіх песьняў у выкананьні Валянтыны Пархоменка й Алеся, ды Вольгі Казакоў.

Інфармацыю ў гэтай справе зьмяшчаем асобна.

Сьвяткаваньне дало 350.оо даляраў чыстага прыбытку, зь якіх 200.оо даляраў пайшло на выданьне "Царкоўнага Пасланца, а 150.оо на вельмі пякучыя патрэбы Іміграцыйнага Адзьдзелу Кансысторыі БАПЦ.

Нашым дарагім артыстам, што былі ласкавыя без заплаты выступіць на сьвяткаваньні й ўсім прысутным на ім, што іхнай шчодрасьцяй далажыліся да прыбытку й няпрысутным а.а. В. Кендышу, М. Страпку, М. Таўпеку й сп-ні О. Яськевіч, якія не пашкадавалі ахвяраў на добрую справу, Рэдакцыйная Калегія "Царкоўнага Пасланца" выказвае шчырую падзяку.

**ЗРАБЕЦЕ ВАШ ДОБРЫ ЎЧЫНАК НА СЁНЬНЯШНІ ДЗЕНЬ- ДАЙЦЕ АХВЯРУ НА "ЦАРКОЎНАГА ПАСЛАНЦА"**

## КУМІР НЕБУКАДНЕЦАРА

ПРЫСВЯЧАЕЦЦА К.П.П.

Падданым ён крычаў ў аблудзе:
"Вы ля маіх ляжыце ног!
І хай цяпер над вамі будзе
Да веку мой адзіны бог!

Я клічу вас ў даліну Дуры.
Кідайце ўсе багоў сваіх,
Схіліцеся ж як перад бурай
Перад стварэньнем рук маіх.

Прыслужнікі у бомы білі,
Быў чутны мусікійскі гром,
І ладан там жрацы курылі
Перад чарговым алтаром.

І ад Егіпту да Паміра
Князі сабраліся кругом
І рукатворнага куміра
Жыцьця назвалі ўладаром.

Ён быў вялікі, цяжкі, страшны,
Сьпіной як бык, са твару леў,
Вакол ляжалі купы брашнаў,
І дым кадзільніцаў курэў.

І перад ідалам на троне,
Трымаючы сьвяшчэнны шар
І ў сяміяруснай кароне
Зьявіўся Небукаднецар.

Ён гаварыў: "Мае народы!
Зямны я бог, я цар цароў,
Таптаў я кожны сьцяг свабоды
Вышэй я іншых ўладароў.

Але я ўбачыў, што вы груба
Маліліся другім багам,
Хоць толькі цар, што небу любы
Мог даць багоў сваім рабам.

Вам бога новага даю я.
Яго сьвяціў мой царскі меч.
Непаслухмяным я рыхтую
Крыжы й распаленую печ.

І па раўніне дзікім стогнам
Пранёсься крык: "Ты бог багоў!"
Зьліваючыся з бомаў звонам
І з гласам трапяткіх жрацоў.

Пры выглядзе такога глуму
"Мой Бог!" - я моцна закрычаў,
Грамчэйшы за вар'яцтва тлуму
Мой голас ў небе загучаў.

І ад вышынь Атурапатны
Дыхнула бурнаю зімой.
Як храму полымя аглядна
Цьвердзь разыйшлася нада мной.

І беласьнежныя мяцелі
Із градам, зь ліўнявым дажджом
Карою лёдзістай адзелі
Раўніну Дурскую кругом.

Ён паў у падзеньні найвялікім
І перакулены ляжаў.
Ад яго у страху дзікім
Люд апантана уцякаў.

Таго былога ўладцу ўспомніў:
Як неяк бачыў на палі,
Як ён з гавядаю нароўні
Траву скуб проста пры зямлі.

*Уладзімер Салаўёў. 1890.*
*Пераклаў Валянцін Грыцкевіч.*

*Ад Рэдакцыі: Мы з ахвотай друкуем пераклад пабудаванага на 3-м і 4-м раьдзелах кнігі прарока Данілы верша выдатнага расейскага філёзафа й багаведа Уладзімера Салаўёва (1853-1900), які зрабіў і быў ласкаў даслаць нам сп. дацэнт Валянцін Грыцкевіч з Санкт-Пецярбурга.*

*Робім гэта нятолькі з увагі да майстэрства перакладу, але й дзеля трапнасьці сюжэту верша, як пад адрысам сучаснага аўтару обер-пракурора Сыноду Расейскае Праваслаўнае Царквы К. Пабеданосцава, гэтак і ў прылажэньні да некаторых асабістасьцяў нашых дзён.*

*Дзякуючы сп. Валянціну Грыцкевічу за ягоны даклад да цікавейшасьці зьместу "Царкоўнага Пасланца", спадзяемся, што ён не адмовіць яшчэ няраз даць здаваленьне нашым чытачам далейшымі матэрыяламі.*

## СЛУЖБОЎНІК

(ПРАЦЯГ З Н-РОЎ 2, 3, - 1995 і 1, 2-3, 4 - 1996)

Папярэдня наш агляд выдадзенага ў 1994-м годзе ў Таронта пад фірмай БАПЦ, але без дазволу на гэта, "Службоўніка" спыніўся на канцы Выяву веры.

Цяпер пойдзем далей да найважнейшае часткі Сьв. Літургіі, г. зн. да асьвячэньня дароў, або эўхарыстычнага канону, што пачынаецца ў царкоўна-славянскай мове сьвятаровым выгаласам "станем добре, станем со страхом, вонмем святое возношеніе в мире приносити".

Як і ў іншых мейсцах раней, таксама й гэтта для перакладніка ня йснуе загадны лад і, замест заклiку "станьма", ён абыякава паведамляе "станем".

"Станем добра" гучыць непаважна й патрабуе замены на "станьма годна".

Далей "страх" у царкоўна-славянскай мове мае й іншае ад нашага значаньне, а гэта "пашана", якое тут, мабыць, лепш выяўляла-б думку.

"Уважліва" вычуваецца бліжэй да "пашанот-на (-ліва), хоць мова йдзе, хутчэй, праз "дбай-на (-ліва)", што выразьней чуецца ўва "ўважна".

"Ахвяраваньне" не дае, нажаль, узвышанага адчуваньня ц.-славянскага слова "возношеніе" й таму ня было-б моўнага агрэху скарыстаць ягоны беларускі адпаведнік "узношаньне".

Урэшце, як бачым, перакладнік забыўся на наказ "в мире", які ў гэтым мейсцы найлепш пераказаць "у зладзе".

Гэткім чынам пачатны выгалас эўхарыстычнага канону пабеларуску павінен гучэць: "*станьма годна, станьма з пашанай, уважна сьвятое ўзношаньне ў зладзе прыносіць*".

Верніцкі адказ на гэты выгалас "милость мира, жертву хваленія" ў перакладзе напісаны: "міласьць міра, ахвяру хвалы", хоць больш зразумелым і сьпеўным было-б "*дар ад міру, даньне хваленнае (хваленьнямі)*".

Наступны выгалас "благодать Господа нашего Іисуса Христа и любы Бога и Отца, и причастіе Святаго Духа, буди со всеми вами" у "Службоўніку" пераказаны "ласка Госпада нашага Ісуса Хрыста, любоў Бога Айца й супольнасьць Сьвятога Духа няхай будуць з усімі вамі".

Узноў гэтта ў пачатку перакладнік непанашаму ставіць займеньнік пасьля назоўніка, а далей ужывае слова з

расейскім адценьнем у гучаньні "любоў", замест больш сугучнага з нашай гутаркай "любасьць", або знойдзенага сп. В. Сёмухам у народнай мове брылянту "мілата", ды ўрэшт ўстаўляе "супольнасьць", дзе, магчыма "прысутнасьць" была-б дастатковай

З гэтых заўвагаў відаць, што разгляданы выгалас павінен быў-бы гучэць : *"ласка нашага Гаспадара (Госпада) Ісуса Хрыста і любасьць Бога Айца, ды прысутнасьць Сьвятога Духа хай будуць з усімі вамі"*.

Адказ вернікаў "и со духом твоим" перакладзены "і са духам тваім" пэўна-ж, ня можа быць іншы як *"ды й з тваім духам"*.

Усьледны выгалас "горе имеем сердца" ня можа быць як у "Служкбоўніку" перакладзены "узьнімем" сэрцы ўгару", бо й так ведама, што нешта ўзьняць можна толькі ўгару, а ня ўніз, ды ягоны сэнс патрабуе не абвестнага ладу, а загаднага.

Таму гэты выгалас трэба было-б вымавіць як "ўздымем (-а) сэрцы".

Да адказу вернікаў "имамы ко Господу", перакладзенага як "узьнялі да Госпада" неабходна, усё-ж, у пачатку дадаць *"мы"*, або нат *"мы іх"*.

У далейшым выгаласе "благодарим Господа" перакладнік узноў не адчувае загаднага ладу й кажа "падзякуем Госпаду", хоць тут можна сказаць адно *"(па) дзякуйма Госпаду (Гаспадару)"*.

Верніцкі адказ гэтта "достойно и праведно есть покланятися Отцу, и Сыну, и Святому Духу, троице единосущней и нераздельней" у перакладзе гучыць "годна й справядліва ёсьць пакланяцца Айцу, і Сыну, і Сьвятому Духу, Тройцы адзінаіснай і непадзельнай".

Пераклад "праведно" як "справядліва" ў гэтым выпадку нязусім удалы, бо тут ня йдзе праз нейкую, скажам, судовую справядлівасьць, а праз тое, што трэба даваць Богу й гэта найлепш акрэсьліць словам "належна".

Раней у гэтым аглядзе ўжо казалася, што слова "Тройца" ў нашай мове выклікае ўяўленьне нейкае сьвятое жанчыны, а ўняць складное разуменьне, аб якім у дадзеным выпадку йдзе гутарка, у нас можна толькі словам "Тройства", падобна, як напрыклад, "мноства".

"Адзінаісная" гучыць штучна й мудрагельна, а значыць нічога іншага як "што (ёсьць) адна".

Склаўшы заўвагі разам атрымоўваецца, што думку гэтага сказу лепш было-б перакласьці словамі *"годна ды належна (нам) пакланяцца Айцу, і Сыну, ды Сьвятому Духу, Тройству, што (ёсьць) адно ды непадзельнае"*.

Далейшы выгалас "победную песнь поюще, вопіюще, взывающе и глаголяще" у "Служкбоўніку" перакладзены як " пераможную песьню сьпяваючы, гукаючы, усклікаючы й прамаўляючы".

Гладчэй панашаму, пэўна, было-б *"пераможную песьню пяючы, галосячы, гукаючы ды мовячы"*, варочаючы ў гэтым выпадку слову "галасіць" ягонае пачатнае значаньне "голасна гаварыць", або "крычаць".

Адказ вернікаў на яго "свят, свят, свят Господь Саваоф, исполнь небо и земля славы Твоея; осанна в вышних, благословен грядый во имя Господне, осанна в вышних" перакладнікам переказваецца "сьвяты, сьвяты, сьвяты Госпад сілаў, неба й зямля поўныя славы Тваe" й "слава на вышынях, дабраславёны той, хто прыходзіць у імя Госпадава. Слава на вышынях".

Гэтта адразу вычуваецца недастатковасьць акрэсьленьня "Госпад сілаў", якую можна паправіць приставіўшы слова "ўзнайвыш".

Да гэтага яшчэ й "слава" на мейсцы "осанна" зусім ня роўнае значаньнем адно аднаму й лепш было-б, як і робіцца ў іншых мовах, пакінуць тут "асан(н)а", ці "(г)асан(н)а".

Загана перакладу на гэтым, аднак, ня ня кончыцца, бо ў "вышних" ня кажацца праз нейкія неазначаныя вышыні, а маецца наўвеце "найвышша", дзе Божы пасад.

Ды ўрэшт "дабраславёны" зусім непатрэбны й дзікі бязглузд у нашай мове, на мейсцы якога можа быць толькі "хвалаваны".

У выніку разгляду абодвых сказаў іхнае папраўленае гучаньне будзе *"сьвяты, сьвяты, сьвяты Госпад (Гаспадар) сілаў узнайвыш, поўныя неба ды зямля Твае славы; (г)асанна ў найвышшы, хвалаваны той, што йдзе ў Госпадава(-е) (Гаспадарова(-е) ймя, (г)асанна ў найвышшы"*.

Прычастныя выгаласы "приимите, ядите, сіе есть тело Мое, еже за вы ломимое во оставленіе грехов", і "пійте от нея вси, сія есть кровь Моя Новаго Завета, яже за вы и за многия изливаемая во оставленіе грехов", перакладзеныя "прыймеце, ежце, гэта ёсьць цела Маё, што за вас ломіцца на выбачэньне грахоў" і "пеце зь яе ўсе, гэта ёсьць кроў Мая новага запавету, што за вас і за многіх праліваецца на выбачэньне грахоў", панашаму гладчэй было-б выказаць *"прыймеце, ежце, гэта Маё цела, за вас ламанае на адпушчэньне грахоў"* ды *"пійце зь яе ўсе, гэта Мая кроў Новага Наказу, за вас і за многіх літая на адпушчэньне грахоў"*.

Канцавы выгалас асьвячэньня дароў "Твоя от от Твоих, Тебе приносяще о всех и за вся", нямаведама чаму перакладзены "Тваё з Твайго Табе прыносім за ўсіх і за ўсё", павінен быць сказаны *"Твае* (дары) *ад Тваіх* (слугаў) *Табе прыносячы за ўсіх* (людзей) *і за ўсе* (дабрадзействы)".

Думка сказу працягваецца ў адказе вернікаў "Тебе поем, Тебе благословим, тебе благодарим, Господи, и молимтися Боже наш", які ў "Служкбоўніку" переказаны "Цябе хвалім, Цябе дабраславім, Табе дзякуем, Госпадзе, і молімся Табе Божа наш", хоць кожнаму чутно, што панашаму трэба было-б мовіць *"Табе пяем, Табе хвалу даем, Табе падзяку шлем, Госпаду (Гаспадару), і Табе молімся, наш Божа"*, або ўканцы *"і цябе ўпрашаем Наш Божа"*.

З канцом эўхарыстычнага канону спынім гэтым разам і наш агляд, спадзяючыся скончыць яго ў наступным нумары "Ц.П," ды тады-ж зрабіць канцавыя заўвагі.

Каб не пакідаць, аднак, надаўжэй бяз водгуку атрыманыя ад нашых чытачоў моўныя засьцярогі, адкажам на пару зь іх адразу тут.

Сп. М. Г. уважае, што "иже" трэба перакладаць "той, хто", а ня "той, што".

На гэта мы спытаем, як ён, напрыклад, апісаў-бы чалавека на дарозе, "той (чалавек), што йдзе па дарозе", ці "той (чалавек), хто йдзе па дарозе"?

Праўда, можна сказаць і "той, хто йдзе па дарозе", але толькі ў выпадку, калі ўсьлед стане дапаўненьне думкі, скажам, словамі "часам спаткнецца".

Сп-ня Р. Г. не ўхваляе слова "гэтта", уважаючы яго за выхаплены нашымі моваведамі з аповесьці І. Мележа "Людзі на балоце" дзівос.

Цікава было даведацца, што гэтае слова ўжыў, хоць мы таго й не дагледзелі, ведамы пісьменьнік, але яно не ягоны, ані пракудных моваведаў вынахад, а шырака ў Слонімшчыней Наваградчыне распаўсюджанае азначэньне мейсца "тут".

Блытаць яго з назовам жыдоўскага асельля зусім ня трэба, бо, як у слове "ганак", і ў "гэт(т)а" трэба захоўваць вымаўленьне "g".

Ці-ж ня варта ўзбагаціць нашую мову словам, якое наймудрэйшы мовавед, а гэта сам наш народ, стварыў?!

Барыс Данілюк

**АРТЫКУЛЫ ПАДПІСАНЫЯ ПРОЗЬВІШЧАМІ АЎТАРАЎ НЕ АБАВЯЗКАВА ВЫКАЗВАЮЦЬ ПОГЛЯДЫ РЭДАКЦЫІ**

## ПСАЛЬМ 50

(ПЕРАКАЗ Б.Д.)

Зьмілуй Ты мяне, о, Божа,
Зь вельма літасьці Твае
Ды йз шчадроцьцяў Тваіх множжа
Шчысьць няпраўнасьці мае.

Змый няпраўнасьць аж да сьледу
Ды цалком мне грэх даруй,
Я-ж няпраўнасьць маю ўведаў
Й грэх усьцяж мой мне ўваччу.

Проць Цябе я ўвінавацеў
Й ліха ўсуперак чыніў,
Дык як станеш ўрэшт караці,
На засуд Твой заслужыў.

Бо нягодны я перш роду
Й грэшны ўжо на сьвет ступіў,
Сэрца-ж чысьць Табе ўдагоду
Й да яе мне шлях яві.

Ўмый мяне гісопам чыста,
Каб бялей за сьнег я быў,
Слуху дай чым ўзьвесяліцца,
Водляг целу, што скарыў.

Грэх будзь ласкаў дараваці
Й зглядзь усё чым я ўвініў,
Чысьці ў сэрцы дай багацьце
Й дух праўдзівы мне вярні.

Не адрынь сьпярод аблічча
Й Дух Сьвяты не забяры,
Збаў, журбу каб мог забыцца
І навагу ў мне ствары.

Дык няпраўных я настаўлю
Й да Цябе блудных вярну,
Ад загубы мяне збаў Ты
Й праўду я Тваю ўхвалю.

Гаспадару, не адмові
Й вусны мне Ты адчыні,
Дык Тваю хвалу затое
Ўвесь час весьціміць яны.

Я й ахвяру даць ахвотны,
Каб спаленьня Ты жадаў,
Кайны-ж дух Табе люботны,
Ў сэрцы скору ўпадабаў.

Ласкай Ты Сыён ушчодры,
Ўзноў Ярузалем ўздымі,
Прыймеш наш тады дар годны:
Ўцэль спалёныя цялкі.

## АЎТАКЕФАЛІЯ Й ЕЙНАЯ АДБУДОВА

Пры абдумоўваньні пачатку гутаркі на названую ў загалоўку тэму ў вочы ўпала зацемачка зь ЛіМ'аўскага "Кола дзён", у якой коратка пераказваецца зьмест надрукаванага ў газэце "Зьвязда" з 11-га сакавіка г.г. артыкулу Валера Каліноўскага "Шэсьць год незалежнасьці. А пэўнасьці няма", дзе быў зроблены аналіз асягненьняў за шэсьць год дзяржаўнага сувэрэнітэту Украіны й Беларусі.

У выніку гэтага аналізу аўтар сьцьвердзіў, што, хоць стартавыя ўмовы ў абодвых краёў былі прыблізна аднолькавыя, цяпер Беларусь у шмат чым засталася ззаду.

Аўтара, як журналіста, закранае перадусім розьніца ў свабодзе, а праз гэта й праўдзе інфармацыі даступнае грамадзянам абедзьвюх краінаў і ён, з зайдрасьцяй назіраючы вялікі поступ ў кірунку дэмакратызацыі й сусьветных журналісцкіх стандартаў у сяродках масавае інфармацыі нашых суседаў, жалюе з прычыны поўнага рэгрэсу ў гэтай справе ў нас.

Нельга не пагадзіцца з аўтаравай думкай, калі йдзе праз калецтва, якое спрычыняюць беларускаму інфармацтву рэпрэсіі дзяржаўнае ўлады, але дапушчаць, што быццам бяз іх у гэтай важнай дзялянцы нацыянальнага жыцьця ўсё было-б у парадку, азірнуўшыся, няма падставаў.

Бо нашыя, быццам, свабодныя ў пару станаўленьня дзяржаўнасьці сяродкі інфармацыі кульгавым дзіцём нарадзіліся й з таго зь іхнай місыяй ня справіліся, ці, хутчэй, справіцца ня зусім хацелі.

Найвыразьнейшым прыкладам на гэта справа аўтакефаліі Праваслаўнае Царквы на Беларусі наагул і дачыненьне да яе Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, што знайшла ратунак ад зьніштаваньня за мяжою.

У розьніцу, бо, ад украінцаў, што адразу ў пачатку незалежнасьці з дапамогаю экзыльнае Праваслаўнае Царквы нятолькі адрадзілі іхную аўтакефалію, але й узьнялі яе да ўзроўню патрыярхіі, у нас гэтае пытаньне было абгароджанае непранікным табу.

Затое, колькі-ж мовы было праз вунію, як нацыянальную беларускую веру, а побач няменш хваласьпеваў гучэла пад адрысам маскоўскага экзарха ў Беларусі.

Наіўнасьць спадзяваньняў на гэтыя звонку кіраваныя сілы пачынае ўрэшт, хоць і паволі, даходзіць да сьведама трывожных за нацыянальную будучыню людзей на Бацькаўшчыне й на бачынах прэсы зьяўляюцца матарыялы, што прабуюць цікавасьць да справы аўтакефаліі Праваслаўнае Царквы ў Беларусі задаволіць.

Якасьць гэтых матарыялаў, нажаль, пераважна прымушае жадаць лепшага.

Для прыкладу возьмем надрукаваны ў №№ 10 і 11-м "ЛіМ'у" за гэты год артыкул Леаніда Лыча "Сваёй уласнай мовай славіць Яго...", у якім ведамы з плоднае публіцыстыкі на рэлігійныя й царкоўныя тэмы аўтар, што раней паводле нашага разуменьня хіліўся да вуніі, загаварыў і праз патрэбу аўтакефаліі Праваслаўнае Царквы ў Беларусі.

Загаварыў вялікімі й шматлікімі словамі, ды зусім не падрыхтаваўшыся...

Паправы памылковых паведамленьняў найчасьцей займаюць больш мейсца за зводныя арыгіналы й, каб зрабіць усе да вышэй згаданага артыкулу спатрэбілася-б болш месца, як мы маем, усё-ж на частку дэзьінфамацыі, да якое дапусьціўся аўтар, паспрабуем даць праўдныя адказы.

Як сьветку й удзельніку супрацiву супраць польскага праваслаўя мне была навіной пададзеная сп. Лычом вестка, што пад польскім займом да 1939-га году праваслаўныя "набажэнствы... вяліся пераважна на польскай мове".

У гэтым выпадку аўтар выдае жаданае польскай уладай за запраўднасьць, да якое яшчэ далёка й вельмі небясьпечна было йсьці.

Далей сп. Лыч нямаведама чаму хварэе кволымі пачуцьцямі да мітрапаліта Панцялеймана (Ражноўскага), з чаго й прабуе стварыць зь яго вобраз, калі ня беларускага патрыёта, дык сымпатыка беларускае справы.

Узноў-жа, з блізкасьці назіраньняў за гэтым чалавекм, трэба сказаць, што запраўднасьць была зусім адваротнай ад улятуценага сп. Лычом вобразу, бо архіяпіскап Панцялейман быў найзацятым чорнасоценцам, які праседзеўшы

дваццаць год у Жыраўскім манастыры за няпрыймо польскае аўтакефаліі, пэўна-ж, не пагадзіўся й на беларускую, ды пры першай нагодзе яе зьліквідаваў.

Біялягічная беларускасьць архіяпіскапаў Філафея й Апанаса была інструмантам, якім яны зручна карысталіся на павышэньне ў іхных духоўніцкіх кар'ерах ды на зманваньне наіўных беларускіх вернікаў да змаганьня супраць Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы.

Удзелу а. Мікалая Лапіцкага ў саборы 1942-га году не даволі, каб зрабіць яго аўтакефалістам, калі рэшту жыцьця ён прысьвяціў на войстрае да скрайнасьцяў змаганьне супраць БАПЦ.

Таксама сп. Лыч даволі адукаваны, каб ведаць, што ніякі блудзень з вуліцы, якому адно здумаецца абвесьціць сваю БАПЦ, ня можа мець да нашае Царквы ніякага дачыненьня, а ўсё-ж муціць чытачам галавы асобай ашуканца Ул. Фінькоўскага.

Гэтак і Эмігідыюша Джэры Рыжага можна вызнаць за беларускага праваслаўнага патрыярха...

Урэшце сп. Лыч пераходзіць да агляду гісторыі й цяперашняга стану БАПЦ на эміграцыі, але робіць гэта, не як гадзіла-б навукоўцу й публіцысту, сваім розумам ды досьледам, але паводле падказаў эміграцыйных карэпэтытараў, што самыя ў нашай Царкве нямала горкае кашы наварылі.

Паводле гэтых падказаў у Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне пры жыцьці а. Хведара Данілюка была цішыня й дабрыня, а пасьля ягонае сьмерці адразу-ж пачаліся нейкія неакрэсьленыя "разыходжаньні".

Праўдаю-ж ёсьць, што й праз некалькі год пасьля адыходу а Хведара быў лад ды парадак, і толькі пасьля таго, як із бязьмежнае даверлівасьці архіяпіскапа Васіля ў парахвію пранік хітры прайдзісьвет, у згоднай грамадзе стварылася спрытна зарганізаваная вакол яго партыя, якая, нарабіўшы прыкрасьцяў, і адкалолася ад БАПЦ.

Далей сп. Лычу ніяк ня прыходзіць у галаў, што ў адной царкве ня можа быць больш як адзін першагерарх і, што, калі два сябе за гэткіх выдаюць, дык адзін зь іх, далікатна кажучы, нязгодзен з праўдаю, а другі, ды зь ім і нашая царкоўная справа, церпіць.

Ня сумляюць аўтара й два саборы, што гэных першагерархаў паставілі, хоць больш вагі, вычуваецца, ён дае скліканаму вясною 1983-га году ў Клівлэндзе "надзвычайнаму", бо, моў, адразу-ж пасьля сьмерці мітрапаліта Андрэя зыйшліся й выбралі наступніка, а ізяслававыя прыхільнікі адно год пазьней спахапіліся займець свайго першагерарха.

Сумленна дасьледаваўшы справу сп. Лыч мог-бы пераканацца, што той "надзвычайны" клівлэндзкі "сабор" быў і запраўды нязвычайны, бо пасьпеў у рэкордным часе за сем дзён пасьля сьмерці мітрапаліта Андрэя 21-га травеня 1983-га году знайсьці "дэлегатаў" і зьехацца ўжо 28-га травеня праз 750-цікілямэтравую даль.

Тады можа ён напаў-бы й на сьлед утойванае эміграцыйным "алімпам" праўды, што той, яшчэ пры жыцьці мітрапаліта Андрэя заказаны "надзвычайны сабор" быў завяршэньнем трохгадовае прафэсыйна зарганізаванае й ня гледзячы на кошт праводжанае кампаніі сьпінуць выбранага галаву БАПЦ, не дапусьціць да хіратоніі япіскапа Ізяслава ды абняць царкоўную ўладу, якую ачоліў, непаступна ёю кіраваў і натхняў тагачасны архіяпіскап Мікалай.

Пры гэткім сумленным дасьледаваньні няцяжка было-б адкрыць і замоўчваны, або ўлегцы тым-жаж "алімпам" збываны сакрэт, што, неаднаразова заклікаўы двама іншымі япіскапамі БАПЦ спыніць ягоную шкодную дзейнасьць і нязгодны гэта зрабіць, архіяпіскап Мікалай урэшт быў пазбаўлены духоўніцкае годнасьці.

Ці не ратаваць гэтую годнасьць "аўтарытэтам" маскоўскага экзарха Філарэта, якому сваёй разбуральнай дзейнасьцяй так знакаміта памог, і паехаў былы архіяпіскап Мікалай у 1992-м годзе на Беларусь, бо, ня гледзячы на немалыя грамады патрыётаў, што яго з энтузыязмам віталі, ён ніякай завязі БАПЦ на Бацькаўшчыне ня даў пачатку, а зьвёў час на каншахты з акупанцкім царкоўным рэжымам, або на прыватныя справы.

Увянчэньнем-жаж ягонае візыты была заява прадстаўнікам прэсы, якую карэспандэнт ЛіМ'у Юрась Залоска скандэнсаваў двухслоўем "разам і ўпоравень", ведама-ж, з маскоўскім экзархатам.

Гэтае калабаранцтва, ня гледзячы на ролю, якую маскоўскі экзархат выканаў у дзяржаўным пераварое ды далучэньні Беларусі да Расеі, якраз і йдзе сп. Лычу даспадобы.

Ды зрэштай мо й ня варта дзівіцца яму, калі лідар Беларускага Народнага Фронту на сустрэчы зь мітрапалітам і вернікамі БАПЦ заявіў, што, як адно здабудзем незалежнасьць, дык і мітрапаліт Філарэт стане ці ня дзеячом беларускага адраджэньня.

Запраўды, гэта ўжо не стаўляньне хаты ня пяску, а на бочках з порахам - праекты-ж гэткае будучыні ў нас вельмі папулярныя.

Выводзіцца-ж уся гэтая бяда зь неахвоты ўяўляць дзяржаўнае будаўніцтва не як справу статусу беларускае мовы, а як змаганьне за ўладу, нятолькі палітычную, але й царкоўную.

Падчас прэзыдэнцкае выбарчае кампаніі ў ЗША ў 1992-м годзе ў гасподах арганізацыі кандыдата Клінтана віселі вялікімі літарамі выпісаныя напаміны "эканоміка, дурню" - вельмі памагло-б і нашым адраджэнскім дзеячам хоць дзе ў кішэні трымаць і часам заглядаць на картачку з напісам "улада, дурню", бо як будзе свая ўлада, дык і родная мова займе належнае мейсца.

Памагло-б і ўсім нам мець перад вачыма прыгад, што "вораг цікуе", ведама-ж, не каб памагчы, а пашкодзіць.

Залежнасьць мовы ад улады, а не наадварот, даўно зразумелі ўкраінцы й, узнавіўшы сваю аўтакефалію, сёньня не бядуюць, ці маскоўскі экзархат загаворыць іхнаю моваю, а цікуюць як хутка ён адарвецца ад Масквы й далучыцца да Кіяўскага Патрыярхату Украінскае Праваслаўнае Царквы.

Водгукі з Бацькаўшчыны на "Царкоўнага Пасланца" паказваюць, што й у нас даволі людзей, якія разумеюць, што на ласку Маскоўскага Патрыярхату спадзявацца дарма й трэба сваймі сіламі пачынаць будову свае нацыянальнае, незалежнае звонку, Праваслаўнае Царквы, выкарыстоўваючы пры гэтым дапамогу Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы за мяжою.

Як-жа спарней пайшла-б гэтая справа, калі-б, замест ліць ваду на чужыя мліны, да яе далучыліся гэткія таленавітыя людзі як сп. Леанід Лыч.

Б. Шчарыч

## ГАДЗЮКАЎКА

Пад нямецкім займом у 1939-45-м гадох палякі затаўравалі выдаваныя акупантамі газэты грэблівай мянушкай "gadzinówki".

Гэтае таўро перайшло й на калабаранцкую прэсу, што пад пастаўленым Масквою пасьля вайны рэжымам амаль праз 50 год затапляла іхны край.

Трэба сказаць, аднак, што, як падчас аднае, гэтак і другое акупацыі, Польскі Каталіцкі Квсьцёл у выданьнях, якія мог публікаваць, на супрацоўніцтва з захопнікамі й іхнымі памагатымі не пайшоў.

Мы, нажаль, праз больш як семдзесят год іншае ад калабаранцкае з Масквою прэсы ня мелі, а яна гэтак

секла ў корань усё нацыянальнае, што вылягчаная з патрыятычных пачуцьцяў бальшыня з нас дасюль зь ёю растацца ня можа.

У розьніцу, нажаль, ад палякаў у нас нятолькі сьвецкі друк пераважна далей у корань сячэ ўсё запраўды беларускае, але й сьвятоцкія публікацыі Экзархату Маскоўскага Патрыярхату, што для зману часам называе сябе Беларускай Праваслаўнай Царквою, у гэтым духовым народагубстве не застаюцца ззаду, але й перадуюць.

У згодным хоры, што нязмоўкна гудзе пасьпеў "идеи Православия...идеи единства народов" у маскоўскім ярме, задае, усё-ж , тон выдаваная з ухвалы няўтойлівага ворага ўсяго беларускага, мітрапаліта Філарэта, ворган Беларускага Экзархату "Царкоўнае Слова".

Ад пачатку выдаваньня ў гэтай газэтцы чырвоным швом выстыркае ейная, сьпярша нявельмі прыхаваная, а цяпер дэманстрацыйна адкрытая антыбеларускасьць і прыбранае пабожнымі слоўцамі русыфікатарства.

Апошня гэтая Божая абраза з шырака расьцягнутага фронту наступу на незалежніцкія ймкненьні перайшла ў атаку на найбольш усьвячаныя ўспоры нацыянальнае ідэялёгіі.

Пачатны нацэл у гэтай паклёпнай кампаніі быў ськіваваны на Кастуся Каліноўскага й першы стрэл у памяць мучаньніка за нашую нацыянальную справу зрабіў ужо ведамы чытачас "Ц.П." з атакі на БАПЦ маскоўскі прыслужбіст - журналіст Уладзімер Панада.

У № 6 (51) "Царкоўнага Слова" за 1996-ты год зьявілася ягоная зацемка "Ордэн ганіцеля праваслаўных", якую мы ніжэй перадрукоўваем:

"На старонках беларускай прэсы паведамлялася, што Гомельскае вытворчае аб'яднаньне "Крышталь" вырабіла беларускія ўзнагароды з каштоўных металаў, і сярод іх ордэн Кастуся Каліноўскага.

Шырокавядома, што ў час паўстаньня 1863-1864 гг. К. Каліноўскі натхняў сваіх паплечнікаў на разбурэньне праваслаўных цэркваў, забіцьцё сьвяшчэньнікаў і найбольш актыўных праваслаўных клірыкаў і прыхаджан.

Цікава, каго беларускі ўрад будзе ўзнагароджваць ордэнам знакамітага ганіцеля праваслаўных на Беларусі?"

На гэтай юдаўскай "абароне" праваслаўных на Беларусі, аднак, ня скончылася й у № 3 (60) за 1997-мы год "Ц.С." надрукавала на цэлай бачыне ўспомненыя нейкім К. Кавалеўскім бабчыныя казкі праз паўстаньне 1863-га году й ейную "сустрэчу" з Кастусём Каліноўскім.

Каб брыдотнасьць гэных казкаў ня згубілася ў перказе ніжэй перадрукоўваем іхную пачатную частку:

"Летнім ранкам 1863 года (тады ёй было 15 год) у мястэчка Быцень...з боку Запольля і Манцют прыйшлі атрады Кастуся Каліноўскага. На плошчы каля сабора...пабудавалі вісельніцу. Акружылі жыхароў вёсак Быцень, Зарэчча, Козіна, Рудня, Манцюты і Запольле і сталі сілай зганяць іх на плошчу ля сабора, не мілуючы ні старых, ні дзяцей, ні цяжарных жанчын. Тых, хто супраціўляўся, білі нагайкамі, а найбольш упартым прывязвалі рукі да конскага хваста і, збіваючы, сілай валаклі на плошчу. Хворых прымушалі весці пад рукі, тых жа, хто не мог ісці, білі. Раздаваўся громкі плач жанчын і дзяцей. Яўрэяў яны не чапалі.

Сабраўшы на плошчы народ, Каліноўскі аб'явіў, каб усе, без выключэньня, пераходзілі з праваслаўнай веры ў каталіцкую, а хто не паслухаецца, таго павесяць. У народзе пачалася паніка, конныя воіны сталі збіваць людзей. Сам Каліноўскі раз'язджаў на белым кані і біў тых, хто найбольш супраціўляўся. А яго воіны тут жа, на плошчы, сталі гвалтаваць жанчын і дзяўчат".

Далей ідзе мова праз бабчыныя ўцёкі ад зьсілкаваньня й пасланьне тайком ганца па ратунак да расейскага войска, што адно на трэйці дзень паквапілася паказацца, а, пакуль да таго дайшло, паўстанцы, спалохаўшыся ўзьнятага авечым стадам пылу, паўцякалі ў лес.

І канчацца гэтыя нягодныя нябыліцы нацковам супраць устаноўленага А. Лукашэнкам ордэну Кастуся Каліноўскага й пастаўленага на мейсцы бою каля Мілавідаў, быццам ад імя ўладаў, помніка паўстанцам 1863-га году.

Варожая брахня на нашыя нацыянальныя цэннасьці й сьвятыні наагул не навіна, але ў нападах на Кастуся Каліноўскага, як ня дзіва яшчэ й у царкоўным воргане, зьявіўся новы паклёп, а гэта прымусовага сэксу.

Ведама, што паклёпы выяўляюць духовы ўзровень іхных аўтараў і ў гэтым выпадку зьвінавачаньне паўстанцаў 1863-гп году у гвалтаваньні жанок выводзіцца ня з праўды, а зь вялікае стратэгіі савецкае арміі, жаўнеры якое, паводле апошніх дасьледаваньняў, зьсілкавалі ў 1945-м і 1946-м гадох больш як 2 мільёны немак (гл. кнігу John Lewis Gaddis. We Now Know. Rethinking Cold War History).

Нэрвавацца ад гэтага бруду, або яго аспрэчваць ня варта, бо ён разьлічаны не на тое, каб у яго хто цалком паверыў, а на тое, каб нешта, усё-ж, прыліпла.

А, вось узбагаціць нашую мову словам "гадзюкаўка", на азначэньне гэткага тыпу публікацыі, трэба.

## ЗАПРАЎДНЫ ВОБРАЗ МАСКОЎСКАЕ ПАТРЫЯРХІІ

(ПРАЦЯГ З Н-РУ 2-3, 4, 1996)

### "МІТРАПАЛІТБЮРО" - ГАЛОЎНЫ ШТАБ БАРАЦЬБЫ СУПРАЦЬ РЭЛІГІІ У СССР

Сьвятароў, якія не хацелі супрацоўнічаць з тайнай паліцыяй ды наагул не займаліся палітыкай, рэпрэсавалі толькі за тое, што яны сумленна выконвалі іхныя пастырскія абавязкі. /.../ Калі духаўнікоў і вернікаў каралі за "празьмерную" рэлігійную актыўнасьць, Маскоўская патрыярхія ня толькі не заступалася за іх перад сваёй роднай уладай, але й адхрышчвалася, пісьмова адмаўляла факты перасьледу за веру, яшчэ больш разьвязваючы рукі карным ворганам для дыскрэдытацыі рэлігіі. Надзвычай паказальная ў гэтым сэньсе характарыстыка архірэяў РПЦ, падрыхтаваная Саветам па справах рэлігіі пры Саўміне СССР у якасьці справаздачы перад ЦК КПСС за 1987-мы год.

Найпазытыўныя для камуністаў тыя "*архірэі, якія словамі й справай даводзяць нятолькі ляяльнасьць, але й патрыятызм да сацыялістычнага грамадзтва, рэальна ўсьведамляюць, што нашая дзяржава не зацікаўленая ўва ўзвышэньні ролі рэлігіі й царквы ў грамадзтве і, разумеючы гэта, ня выяўляюць асаблівае актыўнасьці ў пашырэньні ўплыву праваслаўя сярод насельніцтва. Да гэткіх можна залічыць: патрыярха Пімена, мітрапаліта Талінскага Аляксея (сёньняшняга патрыярха "усяе Русі"), мітрапаліта Тульскага Ювэналія (сёньня мітрапаліта Крутыцкага й Каломенскага), архіяпіскапа Харкаўскага Нікадыма*". /.../ Няма дзіва, што менавіта Аляксей зьмяніў Пімена на пасадзе патрыярха ўсяе Русі. У 1974-м годзе Аляксей Рэдыгер, кіруючы таксама й навучальным камітэтам РПЦ, атрымаў ухвалу Савету па справах рэлігіі за ўводжаньне з собскае ініцыятывы новых дысцыплінаў у падначаленых яму духоўных сэмінарыях:

"*Узгадаваньне парахвіянаў у духу Любові да Радзімы, савецкага патрыятызму, чэснага, сумленнага стаўхленьня да працы дзеля дабра Айчыны - заданьне праваслаўнага пастыра*".

Яшчэ больш уражваюць назовы прачытаных у духоўных сэмінарыях лекцыяў Аляксея Рэдыгера, які гэтак прагнуў патрыяршага пасаду (сёньняшняга Патрыярха):

*"У. І. Ленін і культурная рэвалюцыя.*
*Камуністычная мараль і адносіны да працы й сацыялістычнае маёмасьці.*
*Узгадаваньне новага чалавека - найважнейшае заданьне камуністычнага будаўніцтва".*

Савет па справах рэлігіі пры Саўміне СССР у 1975-м годзе шчыра "цешыўся", што дзякуючы выкананай сёньняшнім патрыярхам працы *"зьявілася магчымасьць уплываць на будучых службоўцаў культу, у неабходным для нас кірунку пашыраць тэарэтычныя й практычныя заданьні ў матэрыялістычным духу, а гэта падрываціме рэлігійна-містычныя ідэалы будучага пастыра: можа прывесьці...да разуменьня собскае непатрэбнасьці як службоўца культу".* - За гэткую працу аднаго ордэну Працоўнага Чырвонага Сьцягу недастаткова. Тут і да Знаку Ганаровага Чэкіста, ці Пачэснае Граматы КДБ недалёка.

Ня дужа адстаў ад старэйшага настаўніка сёньняшні кіраўнік Украінскае Праваслаўнае Царквы ў складзе сталінскае Маскоўскае патрыярхіі Ўладзімер (Сабадан). На прыйме ў Савеце па справах рэлігіі пры Саўміне СССР 23-га сьнежня 1974-га году Ўладзімер Сабадан, тады рэктар Маскоўскае Духоўнае сэмінарыі й акадэміі, заявіў:

*"Вы ведаеце, што сярод нашых гадунцоў яшчэ нямала юнакоў з пазытыўнымі поглядамі на зямное жыцьцё, узгадаваных фанатычнымі бабулямі й бацькамі. Гэтыя погляды неабходна перайначыць. Нас турбуе, што сярод завочнікаў - сёньняшніх духаўнікоў, яшчэ шмат людзей з адсталымі ды нават варожымі поглядамі, якія яны ўмецка прыхоўваюць і раскрываюць толькі ў нашым асяродзьдзі".* Тыя пастыры, якія наўсуперак начальству не ўсьвядомілі собскае непатрэбнасьці й наважыліся раскрываць не матэрыялістычную, але рэлігійную веру, "перайначваліся" патрыярхам ды мітрапалітам у аддаленых сельскіх парахвіях, або сіламоц пераводзіліся па-за штат бяз права служыць і прапаведваць. Тыя, хто спрабаваў пашыраць веру ў Бога сярод шырокае публікі, станавіліся аб'ектам увагі карных ворганаў, выклікаліся на "прапрацоўку", допыты, траплялі за краты, іхных родных запалохвалі. Маскоўская патрыярхія аддавала неляяльных да камуністычнага матэрыялізму вернікаў на сталы перасьлед.

### МАСКОЎСКАЯ ПАТРЫЯРХІЯ СЕНЬНЯ

Пасьля таго, як у 1988-м годзе генсакратар М. Гарбачоў загадаў членам Мітрапалітбюро зайняцца "маральным адраджэньнем" шараговага насельніцтва сацлягеру, ідэялёгам у мітрах давялося сьпешна "перабудоўвацца".

У 1988-м годзе на Памесным Саборы РПЦ патрыярхам "усяе Русі" тайным галасаваньнем быў абраны Аляксей Рэдыгер, прычым узноў быў парушаны кананічны парадак, устаноўлены Памесным Саборам 1917-18-га гадоў. Япіскапат сам сабе выбраў начальніка спаміж двох змаганцаў супраць "адсталых і варожых поглядаў": Мітрапалітам Аляксеям (Рэдыгерам) і Ўладзімерам (Сабаданам)... Мітрапаліт Аляксей, які меў больш ордэнаў, пачэсных знакоў і граматаў, атрымаў заканамерную перамогу.

Ужо ў кастрычніку таго-ж году, з прыйняцьцем саюзнага й расейскага законаў праз свабоду веравызнаньняў, царква атрымала права юрыдычнае асобы й неабмежаваную свабоду ў рэлігійна-асьветніцкай, выдавецкай ды вытворча-гаспадарчай дзейнасьці.

Як скарыстала Маскоўская патрыярхія з гэтае свабоды? Праблема афіцыйнае сацыяльнае дактрыны й пропаведзі царквы ў грамадзтве (місыянэрская дзейнасьць) зацікавіла Маскоўскую патрыярхію толькі праз чатыры гады (!) пасьля набыцьця заканадаўчых правоў. Практычна ўсе магчымасьці дзеля гэтага, што зьявіліся дзякуючы блізкім кантактам зь кіраўніцтвам краіны ў 1991-94-м гадох, ня былі рэалізаваныя. Замест таго - дбалі найбольш праз розныя матарыяльныя прывілеі, ды таксама праз масавае адкрыцьцё зруйнаваных храмаў і манастыроў, нават пры адсутнасьці ў іх вернікаў і сродкаў на рэстаўрацыю - толькі каб яны не дасталіся праўнай пераемніцы Праваслаўнае Расейскае Царквы - царкве катакомбнай, якую з фанатычнай зацятасьцяй перасьледаваў КДБ, і царкве сынадальна Зарубежнай - "Белай царкве".

За чатыры з паловай гады безкантрольнае свабоды Маскоўская патрыярхія засяродзіла свае намогі на палепшаньне жыцьцёвых умоваў адміністрацыйнае вярхоўкі царкоўнага кіраўніцтва, а таксама займалася масавым лабіраваньнем рознага кшталту прывілеяў для камэрцыйных ды напоў-камэрцыйных структураў, што дзеляцца часткай прыбытку з царкоўнымі апаратчыкамі. Маскоўская патрыярхія, сынадальныя адзьдзелы, сябры Сыноду сталі сузаснавальнікамі, сябрамі ўправаў або акцыянэрамі сумнеўных банкаў, прадпрыемстваў збыту каштоўных мэталаў, нафты, не ўкладаючы ані капейкі. Падатковыя палёгкі для рэлігійных аб'яднаньняў, а таксама лабіраваныя прыватныя палёгкі й ліцэнзыі на экспарт нафты ды іншае сыравіны - дзелі Маскоўскае патрыярхіі ў ценявым бізнэсе. Аднак, атрыманы з гэтае дзелі прыбытак бясьсьледна зьнікае, калі паўстае праблема фінансаваньня духовае асьветы, дабрачыннасьці, сацыяльнае апекі, тэлеперадачаў. На гэта патрыярхія грошай ня мае. Затое аднекуль архірэі здабываюць раскошныя іншамаркі *(замежныя самаходы-Рэд.)*. Смаленскі мітрапаліт Кірыла, шэф адзьдзелу вонкавых царкоўных дачыненьняў, што да распаду СССР быў адной з галоўных апорных базаў КДБ СССР у царкве, у адным з дакумэнтальных фільмаў заклікаў "дапамагаць" бедным, седзячы ў новым джыпе "Гран Чырокі". Банк "Бін" у тэлерэкляме гандлюе патрыяршым ухваленьнем як фірмовым знакам. Патрыярх Аляксей ІІ-гі мае два ўрадавыя панцыраваныя ЗІЛ'ы, прэзыдэнцкую варту, крамлёўскую спэцсувязь. Цяпер нават каля ягонае патрыяршае катэдры *(пасаду-Рэд.)* ў храме стаяць двох у цывільнай адзежы бяз прыкметаў рэлігійнасьці. Такога ня мае аніводзін грэцкі патрыярх, нават Рымскі Папа!

Як заўважыў адзін пісьменьнік, вобраз маскоўскае патрыярхіі ўяўляецца яму так: сярод занядбаных сёлаў, згалелага насельніцтва, сельскага бездарожжа стаіць урадавы "членавоз". зь якога ў белым каптуры пазірае кіраўнік Маскоўскае патрыярхіі й чакае на ўсенароднае пакланеньне.

### ПЕРАСЬЛЕД ЗАПРАЎДНАЕ ВЕРЫ Ў БОГА ПРАЦЯГВАЕЦЦА

Усё новае, што намагаецца прабіцца праз бэтонную пліту сталінска-брэжнеўскае герархіі, трапляе пад перасьлед. Сьвятары Аляксандар Барысаў і Георгі Качаткоў павярнулі да Бога колькі тысячаў чалавек, і вось, загадам патрыярха а. Георгі пераводзіцца ў маленькі храм, дзе ягоная грамада фізычна ня можа ўмясьціцца. Тым часам патрыярхія ўсяляк патурае рознага заводу каляцаркоўным экстрэмістам, антысэмітам, супратням свабоды выбару ў пытаньнях веры. Паколькі нічога пазытыўнага Патрыярхія ды ейныя слугоўнікі сучаснаму грамадзтву сказаць ня могуць, дык уся іхная "пропаведзь" зводзіцца да заклікаў: "забараніць", "адлучыць", "пракляць" і пад., з заклікам на дапамогу ад дзяржавы. У 1994-95-м гадох Маскоўская патрыярхія зрабіла амаль што сакрэтныя дамовы ці не з усімі сілавымі структурамі: Мінабароны, МУС РФ, памежнымі войскамі й нават з ФАУЗІ (Фэдэральнай агенцыяй урадавае сувязі й

й інфармацыі). Навошта дамова з такой экзатычнай арганізацыяй як урадавая сувязь. Бо й так жа мае патрыярх непасрэдную сувязь з прэзыдэнтам, ды й таксама "вяртушкі" (АТС1, АТС2"). Няйнакш, увесь корпус япіскапату хоча далучыцца да тэлефонна-намэнклятурных выгодаў, а разам з тым й да праслухоўваньня сваіх духовых братоў. З ФСБ дамову складаць ня трэба, бо ўсе агенты КДБ, што "праходзілі" як герархі Патрыярхіі, або засталіся на тых жа самых царкоўных пасадах, або нават прасунуліся яшчэ вышэй. Таму мяйсцовая ўлада й міліцыя перашкаджаюць кананічным структурам Ісьцінна-Праваслаўнай Царквы, Расейскай Праваслаўнай Вольнай Царквы ды іншым канфэсыям. Так што "вечныя рабы" што раз далей прэтэндуюць на зьверхняе панаваньне над шараговымі расіянамі.

Сярод духавенства чэкісты з панагіямі хочуць бачыць бяздумных трэбавыканальных "праваслаўных шаманаў". што пашыраюць ўсялякія забабоны й магізмы. 5 травеня 1995 г. у царкве "Усіх гаротных радасьці", у цэнтры Масквы сьвятар Алег Сцяняяў разам з благачынным а. Б. Глузьняковым правялі сярэднявечнае дзейства "выганяньня духаў", а ў панадворку - "чын ачышчэньня агнём", ведамы зь дзейнасьці каталіцкае інквізыцыі. На вогнішчах а. Алег спальваў неправаслаўную літаратуру й гэта бачыла ўся краіна ў весьцях РТП.

Поруч з гэтым квітнее антысэмітызм і чарнасоценства сталага сябра Сьвяшчэннага Сыноду мітрапаліта Санкт-Пецярбургскага Іаана, які заклікаў да этнічных чыстак накшталт Нямеччыны 1933-га году.

### АПАГАНЬВАНЬНЕ СЬВЯТЫНЯЎ ПРАЦЯГВАЕЦЦА

На гэтым фоне трагічным фарсам выглядае будаўніцтва пасярод Масквы пародыі на Храм Хрыста Збаўца. Калі ў цэнтры Масквы амаль не засталося жыхароў, калі няма сродкаў нятолькі на рэстаўрацыю, але й на кансэрвацыю старажытных храмаў, што пакрысе руйнуюцца, будаваць новы бэтонны (упяршыню ў Расеі) храм-гігант дзеля палітычных амбіцыяў прэтэндэнтаў у прэзыдэнцкіх выперадках папросту амаральна.

Сапраўды паліятыў хораму Хрыста Збаўца будуецца на народныя грошы. Гэта грошы сотняў тысячаў людзей, якія жывуць па-за мяжой беднасьці. Грошы, адабраныя ў вэтэранаў, інвалідаў, шматдзетных сем'яў. І замест таго, каб адмовіцца ад раскошы дзеля служэньня ўбогім, царква кампрамітуе сябе ўдзелам у гэтым будаўніцтве.

Кажуць: "знак пакаяньня". Чыйго? Хто пакаяўся? Ці па хрысьціянску падмяняць пакаяньне вонкавым знакам?

На самай рэчы бэтонны гмах сымбалізуе іншае. Пад алтаром, пад мейсцам для малітвы будуецца вялізарны гараж на 600 стойлаў для іншамаркаў у цэнтры Масквы, якія будуць здаваць у наймы за валюту, за аўтаматычнае асьвячэньне кожнага самаходу, што заяжджае ў храм-гараж. Пад сьвятынямі разьмесьцяцца рэстараны, саўна, канфэрэнц-заля, бізнэс-цэнтар, туалеты... З гаражу ў камфортныя мейсцы пад алтаром "новых рускіх" будуць падыймаць 28 ліфтаў (вартасьць кантракту - 1.3 млн. д.). асабліва важных пэрсонаў ліфт будзе падыймаць адразу ў алтар! Натуральна, гэты праект ня мае нічога супольнага з храмам Хрыста Збаўца, узьвернутага ў 1931-м годзе. Але камэрсантаў ад палітыкі ды чэкістаў у расах гэта ня турбуе.

Будоўля можа стацца нятолькі першым храмам "на мэрсэдэсах", але й называцца "на курыных ножках", бо 13-га ліпеня 1995-га году патрыярх Аляксей ІІ-гі зьвярнуўся да кіраўніка Дзяржвдумы І. Рыбкіна з просьбай паспрыяць пастаўкам бяз мыта пад выглядам гуманітарнае дапамогі шматтоннае партыі тытунёвых вырабаў, Патрыярх просіць атрыманыя ад рэалізацыі грошы скіраваць на адбудову храмаў - маючы на ўвазе храм Хрыста Збаўца.

У 1837-м годзе для пабудовы храму Хрыста Збаўца быў узьвернуты старажытны жаночы манастыр, ігуменьня якога пракляла гэтае мейсца, заявіўшы, што нічога добрага тут стаяць ня будзе. Гэтак яно й выходзіць. Быў узьвернуты гістарычны храм, зь якога Сяргей Раданежскі выпраўхляў Зьмітра Данскога на перамогу. Храм Хрыста Збаўца народ лічыў мейсцам бяздухоўным, узорам царкоўнае бязгустоўнасьці.

У 1931-м годзе бальшавікі яго ўзьвярнулі. Але й іхны праект камуністычнага храму ня ўжыцьцявіўся. Ці не станецца так, што ў гэты самы храм, які будуецца, прыйдзе той, праз каго сказана:

*"У Божым Хораме ён сядзе, як Бог, выдаючы сябе за Бога".*

(Заканчэньне будзе)

Сьвятар Глеб Якунін

### НЯ ШМАТ УРАІЛІ, АЛЕ МОЦНА ЗЛАЯЛІ

АРХІРЭЙСКІ САБОР РПЦ

Напрыканцы лютага г.г. ў Маскве адбыўся што два гады скліканы Архірэйскі Сабор Расейскае Праваслаўнае Царквы, у якім узяло ўдзел каля 150 япархіяльных япіскапаў.

Апрача пытаньняў штодзённага царкоўнага жыцьця, на парадку дня сабору стаяла колькі пытаньняў немалое вагі, зь якімі ўдзельнікі ня здолелі справіцца.

Адным зь іх была, прыхаваная ў сьпіску іншых кандыдатаў на залічэньне ў сьвятыя, справа кананізацыі царскае сям'і, на якую архірэі самыя не адважыліся, а адлажылі да Пamеснага (краёвага) Сабору.

Наступным, ня пытаньнем, а бядою, якою займаўся Архірэйскі Сабор РПЦ, былі празэлітызм, сэктанцтва й уголас не названае ймкненьне да аўтакефаліі ў адпалых ад расейскае імпэрыі Краёх, а асабліва на Украіне.

Нягодны знайсьці спосабы супрацьдзеяньн адсяродным рухам праз нутраныя рэформы й адмовіцца ад кормнае імпэрскае палітыкі Сабор спагнаў злосьць за нязмогу пасадзіць непаслухмяных хоць у манастыр ухвалаю анатэмы кіраўніку ўкраінскае аўтакефаліі, Яго Сьвяцейству Патрыярху Кіяўскаму й Усяе Украіны Філарэту (Дзянісенка), а таксама даўняму змагару супраць бальшавізму й спаганенага ім япіскапату Расейскае Праваслаўнае Царквы, сьвятару Глебу Якуніну, які, да рэчы, цяпер належыць да Украінскае Праваслаўнае Царквы.

Сьвяцейны Патрыярх Філарэт растлумачыў асаромную пастанову Архірэйскага Сабору РПЦ роспачай гэтага збору з прычыны ўзмацнелага ймкненьня да задзіночаньня трох галінаў Украінскага Праваслаўя й наканаваная гэтым пагроза РПЦ стаць мала большай за Украінскую Праваслаўную Царкву.

Сьвятар Глеб Якунін заявіў, што накладзенае на яго пакараньне нішто іншае, як помста за выкрываньне скарумпаванасьці кіраўніцтва РПЦ, частку апісаньня якое мы друкуем на бачынах "Царкоўнага Пасланца".

Як шкада, што на нашай Бацькаўшчыне яшчэ няма моцнага руху за аўтакефалію й ягоных кіраўнікоў, якім Маскоўская патрыярхія зрабіла-б чэсьць гідкай Богу хвальшывай анатэмай!

**У НАСТУПНЫМ НУМАРЫ "Ц.П." ЧЫТАЙЦЕ:**

Рецэнзію на кнігу Г. Шэйкіна. "Полоцкая епархия. Историческо-статистическое обозрение". Менск. 1996.

Заканчэньне працы сьвятара Г. Якуніна ""Запраўднае аблічча Маскоўскае патрыярхіі" й агляду "Службоўніка"

Артыкулы й весткі, што датычаць Беларускае Аўтакефаліі, пабожныя вершы й псальмы.

## ДА НАС І ПРАЗ НАС ПІШУЦЬ

Перш за ўсё хочам шчыра падзякаваць за калядні й навагодні прывітаньні, якія мы атрымалі ад рэдакцыяў беларускіх праграмаў польскага радыя з Варшавы ды аўстралійскага з Сыднэю, Міжнароднага Камітэту Беларусістаў й Нацыянальнага Навукова-асьветнага Цэнтру імя Ф. Скарыны, а таксама ад паасобных чытачоў з Бацькаўшчыны.

Запэўніваем, што й у нашых думках былі найлепшыя ўзаемныя для іх пажаданьні.

У нашай паштовай скрынцы знайходзім, аднак, нятолькі сьвятнія прывітаньні, але й што раз большую колькасьць лістоў ды допісаў ад нашых чытачоў зь Беларусі, якія прыходзяць пасьля выхаду кожнага нумару "Царкоўнага Пасланца".

З прыемнасьцяй сьцьвярджаем, што галоўная ідэя нашага сьціплага выданьня, а менавіта патрэба ўзнаўленьня Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы на Бацькаўшчыне сустракае там зразуменьне й падтрымку.

Знакам гэтае падтрымкі, апрача водгукаў нашых чытачоў, ёсьць з удзячнасьцяй заўважаная намі прыхільнасьць да нашага выданьня газэтаў "Наша Ніва", "Народная Воля", "Пагоня", "Выбар" ды інш., якія падавалі інфармацыі праз парахвію Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне й наагул праз БАПЦ, што паспрыяла пашырэньню вестак праз нашую дзейнасьць і, як вынік, разьвіццю нашых кантактаў з чытачамі й аднадумцамі на Бацькаўшчыне.

Нават і ня войстра апазыцыйныя беларускія газэты адгукаліся на наш часапіс, за што ім таксама вялікая падзяка.

Ніжэй прапануем усім нашым чытачам пазнаёміцца з прыемнымі нам выяўленьнямі пачуцьцяў ды найбольш цікавымі, на наш погляд, думкамі й разважаньнямі дапішчыкаў.

Рэдакцыйная Калегія палічыла за патрэбу не адкрываць прозьвішчы цытаваных ніжэй карэспандэнтаў.

*"...вялікі дзякуй Вам і асабіста таму добраму чалавеку, які мне пасылае Ваша выданьне. Чытаю яго, а потым, часам памнажаючы, ці цалкам, ці асобныя артыкулы, адвожу, ці пасылаю ў...(назоў роднае ваколіцы дапішчыцы-Рэд.)...жадаю...каб хутчэй надыйшоў той час, калі родная Беларуская Царква вернецца на Беларусь.* Т., Масква

*"Дзякую Вам за тое, што не забываеце пра нас, дасылаеце часопіс, які стараемся даваць чытаць многім... Шлем Вам і ўсім вернікам найлепшыя пажаданьні ў наступным годзе."* Г., Менск

*"Вельмі ўсьцешылі мяне некаторыя артыкулы "Царкоўнага Пасланца", якія прысьвечаны актуальным палітычным падзеям ды раскрыцьцю расісцкае сутнасьці расейскай праваслаўнай секты. Вялікі дзякуй!... Малюся Госпаду Богу, каб у Новым 1997 годзе Ен умацаваў Беларускую Аўтакефальную Праваслаўную Царкву і распаўсюдзіў Яе дабразычлівае панаваньне на ўсёй Беларускай зямлі."* Ю., Віцебск

*"Нумары (Ц.П.-Рэд.) прыйшлі на час, часткова я раздаў знаёмым, а рэшту разам з...разаслалі па адрасох нашых супольных знаёмых у...Спадзяюся, што ... гэта... спрычыніцца да разуменьня й пашырэньня ідэяў аднаўленьня нашае Царквы. А гэтае ўспрыняцьце адбудзецца тады, калі нехта зразумее, якую вялікую аб'яднаўчую мажлівасьць мае нацыянальная Царква. ...ці... перасылаць адрасы...каб Вы зайняліся перасылкай, а мы займаліся папулярызацыяй ідэі БАПЦ у..?* К., Віцебск

*"На маю думку, у працэсе разьвіцьця нацыянальнай сьвядомасьці Праваслаўная Царква можа адыграць немалаважную ролю. Праваслаўе - гэта мост, які зьвязвае свайго верніка з народнымі традыцыямі й уяўленьнямі...".* А., Віцебск

*"У храме Беларускай Праваслаўнай Царквы (а па сапраўднаму філіі Маскоўскай камуністычнай царквы) мы не адчувалі еднасьці (і нават такой магчымасьці) з Богам. Хоць мы з праваслаўных сем'яў, самы хрышчаныя, але не адчуваем гэтую царкву нашай, бо там сьвятары - былыя агенты КДБ, а царква гэтая і зараз застаецца на службе камуністаў... ідэя такой царквы (БАПЦ-Рэд.) вельмі пэрспэктыўная. Бязумоўна, поўная адсутнасьць ведаў аб беларускім праваслаўі, яго гісторыі, сучаснасьці і г.д. (увогуле амаль поўнае няведаньне аб існаваньні й дзейнасьці БАПЦ нават сярод актывістаў патрыядтычных рухаў, ужо не кажучы аб простых людзях) зусім не спрыяе гэтаму... Можна не сумнявацца, пры хаця трохі спрыяльных умовах паўстане Царква наша на Беларусі. ...З вялікім энтузіязмам я і... гатовы заняцца прапагандай БАПЦ. Але ж тады неабходна і нейкая літаратура...бо, ...ніякіх ведаў няма. Тут можна карыстацца "Царкоўным Пасланцом", які я гатовы...распаўсюджваць сярод...вернуючых, блізкіх да ідэі беларускай праваслаўнай царквы..* М.. Гомель

*"Хоць я і зьяўляюся праваслаўным, але быў у царкве ў дарослым узросьце толькі два разы... Ня ведаю, як правільна паводзіць сябе ў царкве, ня ведаю малітваў, абрадаў... На жаль, такіх бальшыня, Галоўнае ж у тым, няма майго даверу царкоўным пасрэднікам паміж мною і Богам; занадта многа дурнога вядома пра дзеяньні і вышэйшых кіраўнікоў царквы, і шэраговых яе прадстаўнікоў... калі сёньня такі сьвет, трэба арыентавацца...на тых, хто... ідзе да разуменьня Бога ў сваім сэрцы. Таму і тэматыка "Царкоўнага Пасланца"... павінна не замыкацца на адных царкоўных праблемах, зьвяртаць увагу на культуру, захаваньне звычаяў, абрадаў (нават некаторых нехрысьціянскіх), маралі... У сувязі з гэтым магу дадаць, што сам я...гатовы...дапамагаць вам у пашырэньні ўплыву беларускай царквы....чаму б нам не быць разам з вамі ў карыснай працы?"* А., Менск

*" Тэрмінова трэба брашурка пра гісторыю і сучаснасьць БАПЦ і грошы на яе памнажэньне. ...Я сфармаваў групу са шчырых вернікаў...трэба хутчэй пачынаць працаваць..узьнікла вельмі цікавая ідэя...каб згуртаваць больш прыхільнікаў і падрыхтаваць кадры...стварыць... грамадзкую арганізацыю, калі на гэта атрымаем дазвол ад БАПЦ... Калі будуць больш спрыяльныя ўмовы, будзем рэгістраваць і царкву... калі газета будзе памнажацца (друкавацца-Рэд.) тут... то трэба пакідаць калонку на рэлігійныя весткі з Беларусі. Кошт 300 пасобнікаў будзе складаць недзе каля 160 даляраў...Зараз буду рабіць абвесткі ў газэты аб хуткім чарговым нумары "Ц.П." і зьбіраць прыхільнікаў ідэі."* Г., Менск

Усім нашым дапішчыкам дзякуем за водгукі й, перапрашаючы іх за вялікае спазьненьне з адказамі, абяцаем, крыху ўправіўшыся з навалам працы, аказацца.

Таксама горача дзякуем нашым прыяцелям, што дасылаюць нам выдаваныя на Беларусі рэлігійныя часапісы й іншыя выданьні.

Заклікаем беларускую эміграцыю ў вольным сьвеце праз "Царкоўнага Пасланца" памагчы нашым пабожным патрыётам на Бацькаўшчыне абярнуць іхныя паймкненьні да ўзнаўленьня Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы ў запраўднасьць.

## КАНЦЫЛЯРЫЯ ПЕРШАГЕРАРХА Й КАНСЫСТОРЫІ БАПЦ

### АТРЫМАНЫЯ Й ВЫСЛАНЫЯ ЛІСТЫ КАНЕЦ 1996 - ПАЧАТАК 1997 Г.

АТРЫМАНЫЯ:

- Калядняе й Навагодняе прывітаньне ад Прэзыдэнта ЗША Біла Клінтана й Першае Лэды.
- Запросіны на ўрачыстасьці інаўгурацыі Прэзыдэнта Біла Клінтана.
- Калядняе прывітаньне ад Яго Сьвяцейства Філарэта, Патрыярха Кіяўскага й Усяе Украіны-Русі.
- Калядняе прывітаньнеад Я.М. Еўлогія, Мітрапаліта Кіяўскага Патрыярхату УПЦ ў Мілане, Італія.
- Калядняе прывітаньне ад Я.М. Усевалада, Япіскапа Украінскае Праваслаўнае Царквы (Канстантынопальскі Патрыярхат).
- Калядняе прывітаньне ад Я.М. Паісія, Япіскапа Украінскае Праваслаўнае Царквы (Канстантынопальскі Патрыярхат).

ВЫСЛАНЫЯ:

- Калядняе й навагодняе прывітаньне Прэзыдэнту ЗША Білу Клінтану й Першай Лэды.
- Калядняе прывітаньне Яго Сьвяцейству Філарэту, Патрыярху Кіяўскаму й Усяе Украіны-Русі.
- Каляднія прывітаньні І.М. Япіскапам Усеваладу й Паісію Украінскае Праваслаўнае Царквы ( Канстантынопальскі Патрыярхат).
- Прывітаньне з абняцьцем абавязкаў Дзяржаўнага Сакратара сп-ні Мэдэлын Олбрайт.
- Ліст сэнатару Спэнсэру Абрагаму, старшыні Сэнацкага Іміграцыйнага Падкамітэту, у справах іміграцыйных і палітычнага азылю для беларусаў.
- Ліст у Дзяржаўны Дэпартамэнт ЗША - Беларускі Стол у справах іміграцыйных і палітычнага азылю для беларусаў.

## З УДЗЯЧНАСЬЦЯЙ АТРЫМАНЫЯ ВЫДАНЬНІ

КАНТАКТЫ І ДЫЯЛОГІ. Інфармацыйна аналітычны і культуралагічны бюлетэнь. №№ 11-12, 1996 і 1, 2, 3, 1997. Адрыс рэдакцыі: 220050, Мінск-50, Рэвалюцыйная, 15, Камітэт МАБ.

ФОС. Каляды 1996/97. Часопіс Брацтва Праваслаўнай Моладзі Беластоцка-Гданьскай Епархіі. Адрыс рэдакцыі: 15-420 Bialystok, ul. Liniarskiego 2, Poland.

ЦАРКВА. Грэка-каталіцкаягазета. №№ 6(10) і 7(11), 1996. Адрыс рэдакцыі: 224014 г. Берасьце, вул. Дворнікава, 62/1-1.

БЕЛАРУСКІЯ ВЕДАМАСЬЦІ. № 1(5)/97. Адрыс рэдакцыі: 02-017 Warszawa, Al. Jerozolimskie 125/127. Poland.

## БЕЛАРУСКАЯ АЎТАКЕФАЛЬНАЯ ПРАВАСЛАЎНАЯ ЦАРКВА

**КАНСЫСТОРЫЯ - ІМІГРАЦЫЙНЫ АДЗЬДЗЕЛ**

**B.A.O. CHURCH, 401 Atlantic Ave., Brooklyn, N.Y. 11217-1702**

## ПАВЕДАМЛЕНЬНЕ

### Ў СПРАВЕ АТРЫМАНЬНЯ ПАЛІТЫЧНАГА АЗЫЛЮ Ў ЗША

Ад пачатку пісанае гісторыі чалавецтва ў ёй значацца імёны змагароў супраць тыраніяў, што дзеля ратаваньня жыцьця шукалі прыпынку за межамі іхных родных краёў.

У мінулым нашае Бацькаўшчыны, падчас чужынскага займа ў XIX-м і XX-м стагодзьдзях, гэтая доля спатыкала й немалую колькасьць змагароў за волю Беларускага Народу.

Пагроза свабодзе, а нават небясьпека жыцьцю сыноў і дачок Беларускага Народу, што змагаюцца за ягоную незалежнасьць, нажаль, нятолькі не паменшала ў нашыя дні, але, наадварот. стала амаль непазьбежным вынікам іхнае дзейнасьці.

У гэтых выпадках ратаваньне жыцьця ад дарэмнае страты й здароўя ад злоснага калецтва, ды захаваньне свабоды й сілаў на далейшае змаганьне, прымушае шукаць схову ад кіпцюроў дыктатуры вонках роднага Краю.

Знайсьці гэткі схоў ад рэлігійных і палітычных перасьледаваньняў, ня гледзячы на нядаўна завойстраныя вымогі, дае ўсё яшчэ магчымасьць іміграцыйны закон ЗША.

Каб у патрэбе скарыстаць з гэтае магчымасьці, а не змарнаваць яе, трэба загадзя хоць з большага пазнаёміцца з гэтым законам і належна падрыхтавацца да доваду неабходнасьці палітычнага азылю для просьбіта.

Права на палітычны азыль дае, паводле акрэсьленьня іміграцыйнага закону ЗША, што ўвайшоў у сілу зь 1-га красавіка 1997-га году, праводжаная ўрадам краіны просьбіта кампанія перасьледаваньняў супраць асобаў тае самае што ён веры, або тых самых поглядаў.

Хоць паводле гэтага закону, быццам, не абавязкава трэба даводзіць, што ад гэткіх перасьледаваньняў пацярпеў сам просьбіт, у практыцы дакумэнтальнае пасьветчаньне ўдзелу ў прадэмакратычным руху й парушэньня з гэтае прычыны ягоных людзкіх правоў вельмі паможнае.

Прызнаньне, ці адмова палітычнага азылю залежыць амаль вылучна ад урадаўца, што апытвае просьбіта й таму трэба адказваць на ягоныя пытаньні з упэўненасьцяй, ды з абгрунтаваньнем датычнымі да справы фактамі й дакумэнтамі.

Заяву на атрыманьне палітычнага азылю трэба падаваць не пазьней аднаго году пасьля прыбыцьця ў Амэрыку, але, зразумелая рэч, лепш не адкладаць гэтае справы да апошняга мамэнту, а, параіўшыся з дабраахвотнай дапамаговай службай, ці арганізацыяй, зайняцца ёю загадзя.

Трэба памятаць, што памагаць Вам пры апытаньні Іміграцыйнай і Натуралізыцыйнай Службай ЗША можа ўзяты Вамі перакладнік, але прадстаўляць, ці заступацца за Вас мае права толькі адвакат і таму асьцерагацца ад нясумленных пасярэднікаў, што бяруць заніштo вялікія грошы.

Іміграцыйны Адзьдзел Кансысторыі БАПЦ дае бясплатныя парады ў справе палітычнага азылю й атрымаць іх можна кожнае нядзелі ў Катэдральным Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне, або дамовіўшыся на іншы час па тэлефоне (718) 998-0069.

Іміграцыйны Адзьдзел Кансысторыі БАПЦ

---

НАШ E-MAIL АДРЫС: belautoc@ix.netcom.com

## ПАДЗЯКА Й ЗАКЛІК

Як можна пераканацца йзь зьмешчаных на 14-й бачыне частак водгукаў на "Царкоўнага Пасланца" з Бацькаўшчыны, наш часапіс будзіць там зацікаўленьне да ідэі Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, а нават і паймкненьні да ўжыцьцяўленьня гэтае вялікае справы.

Але, каб гэтыя паймкненьні завяршыліся посьпехам, нельга дапусьціць, каб адзіны голас аўтакефаліі, якім ёсьць "Царкоўны Пасланец", замоўк, або рэдка быў чуцён, а, наадварот, неабходна, каб ён памацнеў і стаў часьцейшым.

Памагчы асягнуць гэта, нажаль, ня маюць сродкаў тыя, што гатовыя прысьвяціць сябе нашай Царкоўнай Справе на Бацькаўшчыне й надзея на фінансавае падтрыманьне нашага выданьня, а ў будучыні й завязяў нацыянальнага царкоўнага жыцьця ў нашым родным Краі, спачывае на Вас, Дарагія Чытачы, у вольным сьвеце.

Частка з Вас ужо, нираз і шчодра, адгукалася на нашыя заклікі, але бальшыня, зьбянтэжаная эміграцкімі падзеламі, дасюль маўчыць і гэта йдзе на карысьць і ўмацаваньне нашых ворагаў.

Памятайце, што ніхто іншы, а толькі Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква зацікаўленая ў адбудове на Беларусі патрыятычна настроенае Праваслаўнае Царквы, безь якое, як паказалі падзеі, немагчымая дзяржаўная незалежнасьць і толькі БАПЦ у гэтай справе з навагаю дзее.

Не шкадуйце-ж шчодрых ахвяраў на гэтую дагодную Богу й карысную нашай Бацькаўшчыне дзейнасьць!

За гэткія шчодрыя ахвяры на выданьне "Царкоўнага Пасланца" мы гэтым разам шчыра дзякуем: а. В. Ільчук - 10.оо д., а. К. Стар - 30.оо д., а. М. Страпко - 20.оо д, ды спадарыням і спадарам О. Буран - 20.оо д., Даніловіч Б. - 10.оо д., Кажан В. - 15.оо д., Касьцюкевіч Ю. - 20.оо д., Клакоцкі М. - 10.оо д., Клянько & Клянько - 7.50 д., К. Я. - 30.оо д., Лосік В. - 20.оо д., Навумчык Ю. - 10.оо д., Нядзьвецкі П. - 10.оо д., Пелеса Ул.. - 20.оо д., Прускі М. - 5.оо д., Сагановіч М. - 20.оо д., Субота А. - 10.оо д., Сядура І. - 30.оо д., Цярпіцкі В. - 10.оо д., Юрэвіч Л. - 10.оо д., Юхнавец Я. - 5.оо д.

Асаблівую падзяку за вышэйшыя за 50 даляраў ахвяры мы выказваем ніжэй пададзеным дабрадзеям: айцу Міхасю й матухне Вольэе Бурнос - 50.оо д., айцу Васілю Кендышу - 50.оо д., спадарыням і спадарам Бартуль Ф. - 75.оо д., Галяк Р. - 60.оо д., Данілюк Р. - 100.оо д., др. Смаршчок М. - 50.оо д., Яськевіч О. - 120.оо д., што ўвайшлі ў пачэсны сьпісак нашых фундатараў і якім, на выяў удзячнасьці, высылаем часапіс хутчэйшай поштай.

Каб мы мелі некалькі дзясяткаў гэткіх дабрадзеяў кожны год, існаваньне "Царкоўнага Пасланца" было-б забясьпечанае й ідэя нацыянальнае Праваслаўнае Царквы ў вольнай Беларусі йшла-б у наш Край, ды пашыралася-б там ажно да ейнага ўжыцьцяўленьня.

Няхай-жа Сьвята Хрыстовага Ўстаньня з Умерлых натхніць Вас, а Збаўцовая Ласка дасьць Вам магчымасьць гэткую ахвяру зрабіць!

Рэдакцыйная Калегія "Царкоўнага Пасланца"

**УСІХ, КАМУ ДАРАГАЯ СПРАВА АДРАДЖЭНЬНЯ БЕЛАРУСКАЕ АЎТАКЕФАЛЬНАЕ ПРАВАСЛАЎНАЕ ЦАРКВЫ ЗАПРАШАЕМ ДА СУПРАЦОЎНІЦТВА!**

**КРАЁВЫ АДРЫС "ЦАРКОЎНАГА ПАСЛАНЦА"**
**220005 МІНСК-5, а/с 185, "Ц.П."**

BELARUSIAN AUTOCEPHALOUS
ORTHODOX CHURCH
ST. CYRIL'S of TURAU CATHEDRAL
401 Atlantic Ave., Brooklyn, N.Y. 11217-1702
CHURCH MESSENGER
Vol. 25, No. 1, Easter 1997
ISSN 1085-973x

**ADDRESS CORRECTION REQUESTED**

RETURN ADDRESS:
**P.O. BOX 5982**
**SOMERSET, N.J. 08875-5982**

**NONPROFIT ORG.**
**U.S. POSTAGE**
**PAID**
**SOMERSET, N.J.**
**PERMIT NO. 44**